наша свабода

№27(254) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

11 САКАВІКА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

ВЕСТКІ



## Трактар на 8 Сакавіка

Мінскі аблвыканкам вырашыў павіншаваць кіраўніц гаспадарак рэгіёну з Днём жанчын незвычайным спосабам. Усяго такіх шчаслівак на Міншчыне – 16. Найлепшым падарункам на свята 8 Сакавіка, як паведамляе БелаПАН, тут палічылі трактар.

## Час – грошы

З 10 сакавіка ў Мінску стаў платным аўтаадказчык дакладнага часу «088». Званок каштуе 11 рублёў.

## Апісалі маёмасць у кватэры бацькоў Севярынца

У Віцебску судовыя выканаўцы апісалі маёмасць у кватэры бацькоў лідэра незарэгістраванага Маладога Фронту Паўла Севярынца. Гэта звязана са спагнаннем штрафу ў 300 мінімальных заробкаў, што быў накладзены на яго за ўдзел 14 лютага ў акцыі, прысвечанай Дню святога Валянціна.

## Дырэктар «Нафтану» на волі

У Пракуратуры Беларусі абверглі чуткі аб затрыманні генеральнага дырэктара наваполацкага «Нафтану» Канстанціна Часнавіцкага. Пакуль яшчэ нікому з кіраўніцтва «Нафтану» абвінавачванне паводле нядаўна заведзенай крымінальнай справы па факце нанясення прадпрыемству шкоды на суму 1,7 мільёна даляраў не выстаўлена.

## Скульптурны салон

У Музеі сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бембеля адкрыўся Вялікі вясновы салон скульптуры. На выставе-продажы экспануецца больш за сотню твораў вядомых беларускіх скульптараў. Салон будзе працаваць да лета.

## Рэнтабельнасць мяняецца ў адным кірунку

У 2001 годзе рэнтабельнасць сельскагаспадарчай вытворчасці ў Беларусі знізілася ажно ў 31 раз. У 2000 годзе яна склала 6,2%, а летась – усяго 0,2%. Што да іншых галінаў, у прамысловасці рэнтабельнасць зменшылася з 15,8 да 10,8%, у будаўніцтве – з 12,3 да 8,2%, у галіне сувязі – з 23,6 да 12,8%, у гандлі і грамадскім харчаванні – з 11,3 да 5%.

## Вада выходзіць з рэк

За адны суткі вада ў беларускіх рэках падымаецца ў сярэднім на 1-10 см. Самы значны рост узроўню вады (каля 20 см) назіраецца на Заходняй Дзвіне, Дрысе і Дзясне. У некаторых мясцінах вада выйшла на абалоні Бярэзіны, Прыпяці, Дняпра і Нёмана.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»



1700

## Сын за бацьку?

Суд прыгаварыў Аляксандра Чыгіра да 7 гадоў пазбаўлення волі.

6 сакавіка суд Ленінскага раёну Мінску (суддзя – Сяргей Хрыпач) прыгаварыў Аляксандра Чыгіра, сына былога прэм'ер-міністра Беларусі, да 7 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму і з канфіскацыяй маёмасці. А.Чыгір прызнаны вінаватым у дапамозе ва ўчыненні тайнага выкрадання маёмасці (крадзяжу) групай асоб у асабліва буйным памеры – артыкул 205, частка 4 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Па гэтай крымінальнай справе праходзілі яшчэ два чалавекі – Антон Яшын і Дзмітрый Юцкевіч. Яны прызнаны вінаватымі ва ўчыненні крадзяжу паўторна, групай асоб, у асабліва буйным памеры. З улікам папярэдніх судзімасцяў (гэта значыць, у іх дзеяннях устаноўлена наяўнасць рэцыдыву), А.Яшын прысуджаны да 7 гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму і з канфіскацыяй маёмасці, а Д.Юцкевіч – да пазбаўлення волі на тэрмін 11 гадоў 6 месяцаў з адбываннем пакарання ў калоніі асабліва рэжыму і канфіскацыяй маёмасці.

А.Чыгір, А.Яшын і Д.Юцкевіч не прызналі сваёй віны. Іх абарона лічыць, што абвінавачанні ў судзе не былі даказаны, што прысуд незаконны, і ў найбліжэйшы час адвакаты маюць намер яго абскардзіць.

Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН

«Магутны Божа» абраны Нацыянальным гімнам

стар.5

# Вайна на Блізкім Усходзе



*У Ізраілі – новая хваля тэрору. Тэрарысты-самазабойцы нішчаць мірных грамадзянаў дзесяткамі. Армія адказвае масіраванымі ўдарамі.*

### Шарон – за мір пры падтрымцы арміі

Учора раніцай адбылося надзвычайнае паседжанне Кабінету бяспекі – так называецца ізраільскі ўрад ува ўрэзаным складзе, які можа санкцыянаваць узброеную барацьбу супраць тэрору.

Як паведамляе агенцтва *MiGNews*, на паседжанні прэм'ер-міністр Ізраілю Арыэль Шарон канстатаваў, што краіна знаходзіцца «ў стане вайны», і заявіў, што ён асабіста гатовы зрабіць усё, што ў ягоных сілах і ўладзе, каб спыніць гвалт і дамагчыся міру.

Міністры вырашылі ўзмацніць барацьбу супраць тэрарыстаў на палесцінскіх тэрыторыях. Газета «Гаарэц» са спасылкай на крыніцы ва ўрадзе паведаміла, што ў адказ на апошнія тэрарыстычныя акты ізраільская армія будзе праводзіць «інтэнсіўныя контртэрарыстычныя дзеянні» на працягу не менш чым двух тыдняў. У прыватнасці, шырокамаштабныя аперацыі будуць праводзіцца ў лагерах палесцінскіх уцекачоў, а таксама ў некаторых гарадах Заходняга берагу ракі Іардан.

А начальнік Генеральнага штабу Арміі абароны Ізраілю Шауль Мафаз паведаміў газеце пра пачатак «частковай мабілізацыі» рэзервістаў. Гэта яшчэ адно сведчанне фактычнага пачатку вайны.

### Хроніка тэрору

Раніцай у нядзелю палесцінец адкрыў агонь са стрэльбы па ізраільскіх вайскоўцах. Гэта адбылося ў паселішчы Нецарым. Тэрарысту ўдалося параніць двух чалавек, пасля чаго яго самога забілі. Адказнасць на сябе ўзяла групоўка «Брыгады пакутнікаў Аль-Аксы». Тэрарысты паведамілі свету, што страляў 19-гадовы палесцінец Махамед Катаві, які жыў у лагеры ўцекачоў непадалёк ад сектару Газа.

Але сапраўдная крывавая лазня адбылася за дзень да таго – 9 сакавіка. Паводле рэлігійных перакананняў, габрэі не маюць права працаваць у суботу – шабат. У гэты дзень яны могуць толькі адпачываць. Палесцінскія баевікі асабліва ахвотна выкарыстоўваюць гэтую ахілесаву пяту праціўніка. Дзве суботы запар у Ізраілі гучаць выбухі. Ахвяры і пацярпелыя лічацца сотнямі. Сярод іх ёсць і дзеці.

У мінулую суботу ўвечары, калі шабат скончыўся і людзі пайшлі ў кавярні і бары, каб павячэраць, 20-гадовы палесцінец Фуад Харані завітаў у кавярню «Момант» у Заходнім Іерусаліме і падарваў сябе. Як высветліла паліцыя, тэрарыст меў на сабе выбуховае прыстасаванне, начыненае цвікамі. У выніку 11 чалавек загінулі, больш за 50 – параненыя. Адказнасць за акцыю ўзяла на сябе радыкальная ісламіцкая групоўка «ХАМАС». Як перадае агенцтва *MiGNews*, яе людзі ездзілі па вуліцах Газы і праз мегафон абвяшчалі, што гэта менавіта «ХАМАС» забіў столькі ізраільцянаў. Дарэчы, кавярня месціцца непадалёк ад афіцыйнай рэзідэнцыі прэм'ер-міністра Ізраілю.

Служба *BBC* перадае сведчанні відавочцы гэтага тэракту: «Зайшоў чалавек і ўзарваў сябе. Часткі ягонага цела разляцеліся паўсюль. Гэта самае жудаснае, што я бачыў у сваім жыцці».

Літаральна за дзве гадзіны да таго ў турыстычным раёне Нетаніі, што на паўночным узбярэжжы Ізраілю, два палесцінцы пачалі з аўтаматаў расстрэльваць мінакоў. Тры чалавекі загінулі, у тым ліку – 9-месяцавая дзяўчынка, не меней за 35 – параненыя. Абстрэл працягваўся каля 15 хвілінаў, але ў рэшце рэшт паліцыя забіла тэрарыстаў.

7 сакавіка ўвечары на тэрыторыю габрэйскага паселішча Ацмона ў сектары Газа патрапіў палесцінец, які адкрыў агонь па грамадзянах і кінуў у іх некалькі гранатаў. Праз паўгадзіны ізраільскай арміі ўдалося знішчыць тэрарыста. Аднак пацярпелі 28 чалавек. 5 з іх памерлі, калі іх везлі ў медычны цэнтр. Усе яны навучаліся ў ешыве – габрэйскай рэлігійнай школе.

І тут адказнасць за тэракт узяў на сябе «ХАМАС». Напад учыніў 19-гадовы Махамед Фархат з Газы.

*Заканчэнне на стар.3*






Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

# Шушкевіч патрабуе пенсіі

*Станіслаў Шушкевіч мае намер праз суд адстаяць права на персанальную пенсію.*

Былы кіраўнік беларускага парламенту Станіслаў Шушкевіч пацвердзіў у інтэрв'ю БелаПАНу намер адстаяць праз суд сваё законнае права на персанальную пенсію ў памеры 75 працэнтаў ад акладу кіраўніка Вярхоўнага Савету або ўраду.

Паводле інфармацыі экс-спікера, 11 сакавіка ў судзе Маскоўскага раёну Мінску будзе разгледжаны яго іск да Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, якое адмаўляецца індэксаваць пенсійную дапамогу аднаму з аўтараў белавежскага пагаднення. «Прэзідэнт Лукашэнка выдаў у 1996 годзе ўказ і прызначыў мне пенсію, эквівалентную 200 далярам, але наўмысна «забыўся» ўнесці інфляцыйную папраўку. У выніку абясцэньвання нацыянальнай валюты гэтая сума ператварылася ў эквівалент прыкладна двух даляраў, і я магу трапіць у Кнігу рэкордаў Гінеса як самы бедны былы кіраўнік дзяржавы», – патлумачыў Шушкевіч.

Паводле яго слоў, ён зарабляў на жыццё чытаннем лекцый ва універсітэтах ЗША і Польшчы, але зараз зазнае матэрыяльныя цяжкасці. «Разам з тым мой калега, былы кіраўнік Украіны Леанід Краўчук, з якім я нядаўна сустракаўся ў Маскве, атрымлівае пенсію ў 600 даляраў, забяспечаны персанальным аўтамабілем і аховай, карыстаецца цэлым шэрагам сацыяльных ільготаў. Я ўжо не кажу пра забеспячэнне Барыса Мікалаевіча Ельцына і Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Я ж усяго гэтага пазбаўлены і хачу аднавіць справядлівасць», – заявіў Станіслаў Шушкевіч.

Андрэй ДЗЯМЕНЦЬЕЎСКІ, БелаПАН

# Думкі новага куратара ФПБ

*Надзеі новага кіраўніка Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Франца Вітко на пацяпленне стасункаў з уладаю пасля сыходу Уладзіміра Ганчарыка лопнулі, як мыльная бурбалка. Каб зразумець сваю памылку, Францу Вітко і кіраўніцтву ФПБ спатрэбіліся два месяцы.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Што чакае Федэрацыю прафсаюзаў бліжэйшым часам – пра гэта гаворка з цяперашнім намеснікам старшыні Усеагульнай канфедэрацыі прафсаюзаў СНД Уладзімірам Ганчарыкам, які курыруе рэгіён Беларусі, Украіны і Малдовы.

***– Сітуацыя ўнутры Федэрацыі пагаршаецца, што, з аднаго боку, дэманструюць заявы ўсё большай колькасці лідэраў галіновых прафсаюзаў пра магчымы выхад з ФПБ, з другога – працэс стварэння «жоўтых» прафсаюзаў на асобных прадпрыемствах. Наколькі сітуацыя ў ФПБ блізкая да расколу ці, скажам, да самаліквідацыі?***

– Тое, што ўсё больш прафсаюзаў, у тым ліку работнікаў дзяржаўных установаў, заяўляюць пра магчымы выхад з Федэрацыі – гэта іхнія праблемы. І раней былі такія прафсаюзы, скажам, прафсаюз работнікаў падатковых органаў. З іх сыходам Федэрацыя нічога не страціць.

Я ўпэўнены, што самаліквідацыі прафсаюзаў не будзе. Дзеля гэтага трэба заняць прынцыповую пазіцыю, і не толькі па адных прафсаюзных складках.

Большая небяспека заключаецца якраз у стварэнні «жоўтых» прафсаюзаў на прадпрыемствах. Раней такія структуры з'явіліся на Беларускім аўтамабільным заводзе ў Жодзіне, на мінскім «Інтэграле», цяпер ствараюцца на МАЗе. Рэч у тым, што яны цалкам падкантрольныя адміністрацыі прадпрыемства і паддаюцца большаму кантролю, чым стварэнне больш маштабных «жоўтых» прафсаюзаў.

***– Неаднаразовыя пераносы акцыяў, нерашучасць кіраўніцтва адмоўна адбіліся на іміджы Федэрацыі прафсаюзаў?***

– Гэта так, ведаю па сваёй практыцы.

***– Тады, можа, кіраўніцтву ФПБ варта было б заняць больш жорсткую пазіцыю ў адносінах да ўлады?***

– Справа не ў жорсткасці пазіцыі. Трэба проста заняць прынцыповую пазіцыю – і адстойваць яе. Тады прафсаюзы знойдуць падтрымку як унутры Беларусі, так і па-за яе межамі. ФПБ прыняла правільнае рашэнне, прызначыўшы масавыя выступы на 28 сакавіка.

***– Што стане з ФПБ, калі выступы 28 сакавіка пройдуць па леташнім сцэнары? А летась, як вы памятаеце, мітынг у Мінску сабраў толькі каля 2-3 тысячаў чалавек.***

– Улада атрымае на рукі яшчэ адзін козыр, каб паказаць, што за прафсаюзамі ніхто не стаіць. Таму да акцыяў трэба вельмі сур'ёзна рыхтавацца. Але, у прынцыпе, калі не паддавацца паніцы, то Федэрацыя мае ўсе шанцы быць, і быць падтрыманай.

***– Што можа стаць з Федэрацыяй пасля акцыяў 28 сакавіка? Найбольш верагодныя прагнозы.***

– Калі выступленні пройдуць удала – будзе кансалідацыя. Калі не, то прафсаюзы будуць шукаць ратунку па кутах.

Гутарыў Рыгор БУЯН

# Барадзіна аштрафавалі

## *На 300 тысяч швейцарскіх франкаў*

«Жэнеўскія органы правасуддзя» прызналі дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Паўла Барадзіна вінаватым у адмываннi ў Швейцарыі грашовых сродкаў на агульную суму 38 мільёнаў швейцарскіх франкаў (22,4 мільёна даляраў), атрыманых нібыта ў якасці камісійных, і наклалі на яго штраф у памеры 300 тысяч франкаў (175 тысяч даляраў). Пра гэта паведаміла швейцарскае агенцтва АТС са спасылкай на заяву генеральнага пракурора кантона Жэнева Бернара Бертаса.

Паводле словаў Б.Бертаса, 4 сакавіка П.Барадзіну было паведамлена аб прынятым рашэнні, і на працягу 14 дзён ён можа аспрэчыць яго ва ўстаноўленым парадку. Раней адвакат саюзнага дзяржсакратара Генрых Падва пацвердзіў *РИА «Новости»*, што Жэнеўская пракуратура Швейцарыі спыніла крымінальную справу ў дачыненні да П.Барадзіна. Паводле словаў Г.Падвы, абароне пакуль невядомы падставы спынення гэтай справы. Паведамляецца толькі аб спыненні справы з накладаннем штрафу. Г.Падва сказаў, што адвакаты П.Барадзіна маюць намер у найбліжэйшы час вывучыць матэрыялы, звязаныя з рашэннем Жэнеўскай пракуратуры. Ён не выключыў, што рашэнне следства можа быць абскарджана. «Усё залежыць ад умоваў і матывіроўкі рашэння следства», – падкрэсліў адвакат.

У інтэрв'ю *РИА «Новости»* прэс-сакратар дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы Іван Макушок адзначыў, што Павел Барадзін спакойна ўспрыняў звесткі пра спыненне справы, узбуджанай у дачыненні да яго пракуратурай Швейцарыі. Праўда, П.Барадзін пакуль не бачыў адпаведных дакументаў, і таму казаць пра тое, што справядлівасць перамагла, пакуль рана. Разам з тым І.Макушок паведаміў, што ў найбліжэйшы час дзяржсакратар збіраецца абмяркаваць гэтае пытанне са сваімі адвакатамі.

Нагадаем, што ў студзені мінулага году П.Барадзіна затрымалі ў аэрапорце Нью-Ёрку па запыце швейцарскай пракуратуры, якая расследавала крымінальную справу аб злоўжываннях пры рэканструкцыі шэрагу крамлёўскіх аб'ектаў. Пазней дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы, з яго згоды, экстрадзіравалі ў Швейцарыю. Там яму было прад'яўлена абвінавачанне ў адмываннi грашовых сродкаў, атрыманых незаконным шляхам. 12 красавіка 2001 году П.Барадзін быў вызвалены рашэннем Абвінавачвальнай палаты кантона Жэнева пад заклад у 5 мільёнаў швейцарскіх франкаў.

Усяго да крымінальнай адказнасці па так званай «справе фірмы «Мерката Трэйдынг» швейцарская пракуратура прыцягвае 5 чалавек, у тым ліку кіраўніка швейцарскай кампаніі «Мабетэкс» Беджэта Паколі.

БелаПАН

# Дзяржслужачыя задаволеныя ростам цэнаў?

Калі кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ) не зменіць свайго цяперашняга курсу, рэспубліканскі прафсаюз працаўнікоў дзяржустановаў можа прыпыніць сяброўства ў Федэрацыі. Як паведамляе ФПБ, такую заяву зрабіў старшыня прафсаюзу Аляксей Забалотны. Аляксей Забалотны быў сярод тых, хто 28 лютага на паседжанні прэзідыуму Рады ФПБ галасаваў супраць правядзення агульнанацыянальнай акцыі пратэсту пад лозунгам «Не – росту цэн! За годны ўзровень жыцця і правы прафсаюзаў!». Большасць удзельнікаў паседжання прагаласавалі за правядзенне гэтай акцыі 28 сакавіка. Акрамя таго, паводле інфармацыі ФПБ, на сваім папярэднім паседжанні прэзідыум прафсаюзу працаўнікоў дзяржустановаў у рэзкай форме ацаніў дзейнасць як былых, так і цяперашніх лідэраў ФПБ, у тым ліку – супрацоўніцтва Федэрацыі з Беларускім кангрэсам дэмакратычных прафсаюзаў па рэалізацыі праекту Міжнароднай арганізацыі працы «Абарона працоўных, развіццё дэмакратыі і эканамічных рэформ у Беларусі».

Наталля КУЛАГІНА

# Камуністаў высяляюць праз суд

Адміністрацыя Савецкага раёну Мінску папярэдзіла Партыю камуністаў Беларускай пра тое, што ЖРЭУ Савецкага раёну падае іск да ПКБ у гаспадарчы суд на высяленне партыі. Рэч у тым, што 19 студзеня 2002 году скончыўся гадовы тэрмін арэнды памяшкання па праспекце Скарыны, 46а, якое арандуе ПКБ. Аднак камуністы адмовіліся пакінуць займанае памяшканне, якое нібыта тэрмінова спатрэбілася для размяшчэння службаў Савецкага раёну. Праўда, камуністам далі час на высяленне да 1 сакавіка.

4 сакавіка першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін атрымаў ліст за подпісам першага намесніка кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёну Б.Васільева пра тое, што «ЖРЭО Савецкага раёну Мінску вымушана звярнуцца ў гаспадарчы суд з іскам пра вашае высяленне».

Сяргей Калякін заяўляе, што ПКБ не збіраецца пакідаць арандаваны офіс. «Тэрмін арэнды працягнуты, таму права на нашым баку», – заявіў лідэр ПКБ.

Рыгор БУЯН

ПАРТЫІ

# Чэхі дапамогуць Грамадзе

Галоўным вынікам візіту лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча і Уладзіміра Нісцюка 6-7 сакавіка ў Чэхію сталася дамоўленасць аб дапамозе з боку Чэшскай сацыял-дэмакратычнай партыі. «Дасягнута дамоўленасць аб супрацоўніцтве братэрскіх сацыял-дэмакратычных партыяў, а па сутнасці, пра дапамогу чэшскіх сацыял-дэмакратаў беларускай сацыял-дэмакратыі», – падкрэсліў Мікола Статкевіч. Дапамога будзе праяўляцца «ў розных формах, як у маральных, так і палітычных». «Адна з формаў такой падтрымкі – візіт дэлегацыі Сацыялістычнага Інтэрнацыяналу на чале з прэм'ер-міністрам Чэхіі Мілашам Земанам на Беларусь у другой палове красавіка», – сказаў старшыня Народнай Грамады. Трэба дадаць, што чэшскі прэм'ер узначальвае камітэт па дэмакратыі і правах чалавека Сацінтэрну і цудоўна валодае беларускай мовай.

Кіраўнікі Народнай Грамады мелі сустрэчы як з асобнымі міністрамі, так і з парламентарыямі, лідэрамі Чэшскай сацыял-дэмакратычнай партыі. «Мы бачылі вялікую зацікаўленасць, кампетэнтнасць. Нам было заяўлена, што міжнародны сацыял-дэмакратычны рух бачыць на Беларусі адзіную перспектыўную сілу – гэта БСДП і яе саюзнікі, і што яны зробяць усё магчымае, каб аказаць падтрымку гэтай сіле», – заявіў старшыня Народнай Грамады Мікола Статкевіч.

Рыгор БУЯН

# Вайна на Блізкім Усходзе

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*



### Рэзідэнцыя Арафата знішчаная

Учора зранку ізраільскія верталёты і баявыя караблі нанеслі ракетны ўдар па рэзідэнцыі лідэра Палесцінскай аўтаноміі Ясіра Арафата ў сектары Газа. Самога «бацькі ўсіх палесцінцаў» у будынку не было – ужо болей за тры месяцы ён утрымліваецца фактычна пад хатнім арыштам у Рамале. Баявыя дзеянні Ізраілю былі адказам на тэрарыстычныя акты, што адбыліся апошнімі днямі.

Паводле *BBC*, гэта ўжо не першая атака на рэзідэнцыю. Але цяпер яе знішчылі цалкам. Шыкоўна мэбляванага трохпавярховага будынку, дзе Арафат прымаў замежных гасцей, больш не існуе. Яго пабудавалі ў 1994 годзе, калі Палесціна паводле дамоўленасцяў з ізраільскім урадам і з уладамі ЗША атрымала частковую аўтаномію. Тады Ясір Арафат і стварыў сваю адміністрацыю. Ягоная рэзідэнцыя была для ўсіх палесцінцаў сімвалам новай незалежнай краіны, якую яны і сёння спадзяюцца пабудаваць, перабіўшы ўсіх «захопнікаў».

### Гінуць дзеці

Як і на любой вайне, яе ахвярамі становяцца дзеці з абодвух бакоў. Але ізраільцяне падкрэсліваюць: іхнія нявінныя дзеці гінуць у выніку тэрактаў – а непаўналетнія палесцінцы гінуць ад куляў ізраільскай арміі са зброяй у руках або падрываюць сябе ў імя Алаха і незалежнай Палесціны.

14-25-гадовыя хлапчукі з гатоўнасцю ахвяруюць сабой. Яны перакананыя: калі ім удасца знішчыць хоць некалькі «акупантаў», то пасля смерці яны патрапяць адразу ў рай. Такіх пакутнікаў палесцінцы называюць шахідамі.

На сайце *www.sem40.ru* можна сустрэць такую незвычайную гісторыю, якая адбылася год таму.

Ізраільскія салдаты, што вартавалі мяжу з Ліванам, пабачылі, як з таго боку да драцяной агароджы пад'ехаў аўтобус з сірыйскімі нумарамі. З яго выйшлі дзеці, якія роўнымі шэрагамі падышлі да мяжы, скандуючы лозунгі на арабскай мове. Потым туды ж пад'ехаў грузавік, які падвёз камяні. Арабскія дзеткі пахапалі камяні і пачалі шпурляць імі па ізраільскіх памежніках. Калі запас булыжнікаў вычарпаўся, дзеці гэтаксама арганізавана з'ехалі. Пасля персідская служба радыё «Коль Ісраэль» паведаміла, што на ліванскую мяжу прывозілі школьнікаў з тэгеранскіх гімназіяў. Урачыстым шпурляннем камянёў маленькіх іранцаў узнагародзілі за выдатную вучобу і ўзорныя паводзіны.

### Будзённая справа – вайна

З цягам часу да любой пагрозы можна прызвычаіцца. Адзін з апошніх тэрактаў у Іерусаліме адбыўся, калі па тэлебачанні перадавалі трансляцыю футбольнага матчу.

Выбухі, стрэлы, кроў, чалавечыя ахвяры – надзвычайная сітуацыя. Каб паведамляць аператыўныя звесткі з месца трагедыі, ва ўсім свеце перапыняюць тэлевізійныя праграмы. Але ў Ізраілі тэракты адбываюцца ледзьве не штодня. Таму Другі ізраільскі тэлеканал знайшоў «годнае выйсце» з сітуацыі, каб і пра падзеі з месца здарэння паведаміць і на футбол не забыцца. У найлепшых традыцыях сучасных тэхналогіяў тэлеэкран падзялілі на дзве паловы. На адной паказвалі футбол, а на другой – як паліцыя і санітары вывозяць загінулых і параненых.

### Гатоўнасць да новых ахвяраў

Што да палесцінцаў, то яны гатовыя змагацца да апошняга. У інтэрв'ю агенцтву *Associated Press* лідэр тэрарыстычнай групоўкі «Брыгады пакутнікаў Аль-Аксы» на Заходнім беразе ракі Іардан Махмуд Ціці, які асабіста рыхтуе і накіроўвае на смерць тэрарыстаў-шахідаў, заявіў, што «адзіная мэта ягонага жыцця – стварэнне «Арміі вызвалення Палесціны», якая будзе пераследаваць і знішчаць ізраільскіх салдат і пасяленцаў, якія жывуць на палесцінскіх тэрыторыях».

Ізраільскае радыё паведаміла, што 9 сакавіка, калі адбыўся тэракт у Нетаніі, Ясір Арафат выступіў па палесцінскім тэлебачанні са зваротам да нацыі. Ён заклікаў усіх палесцінцаў «ахвяраваць сабой, як пакутнікі джыхаду, дзеля Палесціны». Некалькі месяцаў таму Арафат казаў, што гатовы і сам стаць шахідам і ахвяраваць сабой.

Паводле *Associated Press*, з верасня 2000 году, калі пачаўся новы этап гвалту ў ізраільска-палесцінскіх стасунках, загінулі больш за 1 000 палесцінцаў і больш за 300 ізраільцянаў.

Міхась КАРПОВІЧ

# Адбыўся сакавіцкі Сойм БНФ

*9 сакавіка адбылося чарговае паседжанне Сойму Партыі і руху БНФ.*

Адным з вынікаў праведзенага Сойму стала аднаўленне дзейнасці Камісіі па пытаннях наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Кіраўніком камісіі быў абраны Анатоль Фёдараў. Варта зазначыць, што ў склад камісіі ўвайшлі знаныя спецыялісты: прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Іван Нікітчанка, а таксама доктар біялагічных навук Ружа Ганчарова. Задачы камісіі – не толькі вуканавуковыя (такія, як высвятленне праўды пра маштабы наступстваў катастрофы), але і палітычныя. «Афіцыйныя ўлады адступілі ад колішніх рашэнняў, якія у свой час дабіўся Фронт. Рэжым Лукашэнкі правалiўся эканамічна, і таму эканоміць на развязванні праблемаў Чарнобылю», – зазначыў старшыня БНФ Вінцук Вячорка.

Сябры Сойму абмеркавалі і прынялі палажэнне аб працы старшыні і намеснікаў старшыні БНФ, а таксама палажэнне аб працы абласных арганізацыяў Фронту. Было абмеркавана таксама пытанне інфармацыйнай палітыкі партыі і руху.

Разглядаючы пытанне мясцовых выбараў, сябры Сойму зазначылі, што ў выпадку ўдзелу ў іх БНФ будзе падтрымліваць сябраў Партыі БНФ.

Сойм абмеркаваў папярэдні план вулічных акцыяў на год. Значная ўвага была ўдзелена акцыям сацыяльнага кірунку. Сябры арганізацыі акцэнтавалі важнасць правядзення «круглых сталоў» і мэтавых сацыяльных акцыяў у звязку з той паскоранай кампаніяй алігархічнай прыватызацыі, якую ўлады пачынаюць у Наваполацку, Светлагорску і цэлым шэрагу іншых беларускіх гарадоў.

Прэс-служба БНФ

# Рамонт аднапакаёўкі: ілюзіі і рэальнасць

*Так атрымалася, што ў маёй «хрушчоўцы», на маёй лесвічнай пляцоўцы здарыўся пажар. Лесвічную пляцоўку адрамантаваў ЖЭС разам са ЖРЭА, а пагарэлую аднапакаёўку мне давялося даводзіць да розуму за свой кошт.*

Рабочых я знайшоў праз газету рэкламных абвестак. З імі адразу былі абгавораныя фінансавыя пытанні. У выніку за поўную ачыстку кватэры ад ранейшых наслаенняў, паклейку шпалераў у пакоі і калідоры, афарбоўку падлогі і кухні з ваннай, пабелку столі атрымалася каля 220 даляраў. Апрача таго дамовіліся, што праца будзе ісці толькі з адным выходным і з дадатковай аплатай пры дадатковых відах работ. Максімальны тэрмін правядзення рамонту быў вызначаны ў 16-17 дзён.

З будматэрыялаў асноўную частку грошай аднялі шпалеры. Толькі на пакой пайшло дзесяць трубак, і яшчэ шэсць на калідор з кухняй. Беларускія шпалеры купіць можна ў дзяржаўных крамах за 1-2 даляры ў залежнасці ад якасці. Украінскія – за 2-3,5 даляры. Але калі вы жадаеце мець выбар колераў і гарантыю таго, што ў бліжэйшыя 5-7 гадоў шпалеры па-ранейшаму будуць выглядаць прыстойна, трэба ісці ў камерцыйныя крамы і набываць нямецкія альбо венгерскія. Там і кошты, зразумела, адпаведныя. Ад 5 да 8 даляраў за стандартную трубку. Можна крыху наэканоміць, набыўшы шпалеры ўдвая шырэйшыя. Клей для шпалераў, калі вы жадаеце, каб яны трымаліся, а ён не сыпаўся ад летняй спякоты, таксама патрэбен не ПВА за тысячу рублёў, а зноў-такі замежны па два даляры за чатыры пачкі. Вось і яшчэ адна сотня даляраў набегла.

Зараз мода на белую эмульсійную фарбу для столі «Снежка» польскай вытворчасці. На аднапакаёўку гэта яшчэ 20 даляраў. Якая дзесятка пойдзе на звычайную фарбу для падлогі ПФ-115, удвая больш – на белую фарбу для вокнаў, батарэй, антрэсоляў. На плітку ў ванным пакоі грошай не хапала, таму давялося яе таксама пафарбаваць у блакітны колер. І прыгожа, і адносна танна – яшчэ пятнаццаць даляраў.

Дарэчы, калі ўжо зайшла гаворка пра ванну, то трэба ж успомніць і кошт сантэхнікі. На новую ванну мне, праўда, не хапіла. Занадта дарагая гэта раскоша. Звычайная, беларускай альбо расійскай вытворчасці ванна пацягне на 150-250 даляраў. Калі ж вы жадаеце мець у сябе джакузі альбо проста вельмі добрую фінскую ванну, то падрыхтуйцеся выкласці суму ад 700 даляраў да 5 тысяч. Астатняе ж мне ўсё ж давялося змяніць: надта брыдкі выгляд мелі унітаз ды мыйка. Дарэчы, айчынная сантэхніка вытворчасці завода «Керамін» – вельмі нават прыстойнай якасці аказалася. І кошты не кусаліся. Унітаз – да 40 даляраў, ракавіна з п'едэсталам – да 50, але былі і ў паўтара раза таннейшыя. Давялося пабегаць, пакуль знайшоў падстаўку пад ракавіну на кухню. Купіўшы адразу менавіта ракавіну, з цяжкасцю знайшоў пасля падстаўку з нішаю для вёдзер за трыццаць даляраў, каб якраз адпаведнага памеру. Змяшальнікі адразу быў думаў купіць айчынныя, але ў краме па вуліцы Даўгабродскай пасля просьбы прадаць змяшальнік для ванны коштам у 23 даляры пачуў у адказ параду «не набываць гэтае фуфло» ад... прадаўцоў. Зноў давялося ехаць на рынак у пошуках якасці. Там змяшальнік на кухню вытворчасці Прыбалтыкі заважыў на 20, для ванны – 30 даляраў. Але, шчыра кажучы, па словах сантэхніка, які ўсталёўваў змяшальнік, лепш бы я адшкадаваў яшчэ грошай ды набыў штосьці больш блізкае да Еўропы, чым тая Прыбалтыка. Прычына – недаўгавечнасць.

Дарэчы, дзесьці ў сярэдзіне рамонту я высветліў, што не абыдзецца без дадатковых даплатаў будаўнікам. Рэч у тым, што электрыкі, сантэхнікі і ўся такая «брація» з ЖЭСу, што мусіла выканаць працы па ўсталяванні тых жа новых выключальнікаў ды змену электраправодкі – увайшла ў паслянавагодні клінч. Пасля першага студзеня былі выходныя, потым праваслаўныя каляды, потым стары новы год... Чарніла раскуплялася з неверагоднай прагрэсіяй! А час не чакаў. Гэта абышлося агулам яшчэ ў 50 даляраў будаўнікам.

Разетка каштуе паўдаляра, прыкладна столькі ж – выключальнік (калі падвойныя, то даражэй), новыя свяцільні на столь – ад 10 даляраў у сенцы і кухню, да сарака-пяцідзесяці ў пакой. Гэта – вытворчасці Беларусі. Лінолеум у шасціметровую кухню заважыў яшчэ на 30 даляраў. Паласы ў прыхожую ды пакой разам – даляраў 100 (як будзеце браць у тым жа «Паласе» для сваіх «хрушчовак» – адразу глядзіце ў адддзеле абрэзкаў, бо там і кошт ніжэйшы ў паўтара раза, і ўсю вашу кватэру без прарэхаў накрые). Уключыце ў кошт рамонту яшчэ наждачную паперу – метры тры, шпаклёўку «Акрыл-пуц» – даляраў пятнаццаць, тэлевізійны ды тэлефонны кабель, новыя дзверы (звычайныя – 50, металічныя – ад 120 даляраў), «вочка» для іх. Вешалкі, люстэркі, нешта на сцяну павесіць (не ўсё ж ёй голай быць), цюль, шторы – тут кошты самыя розныя, у залежнасці ад густу ды стану кішэні.

Вядома, пры рамонце трэба часткова змяніць і мэблю. Тым больш у мяне яна крыху падгарэла. Новыя звычайныя табурэткі каштуюць да 5–7 даляраў. Сталы беларускія – ад 20 у.а. Усё буйнейшае – зноўтакі ў залежнасці ад памераў кішэні. Толькі не думайце, што, зрабіўшы рамонт, вам не захочацца змяніць усю драбязу ў кватэры – пачынаючы ад веніка і сканчаючы ручнікамі: яшчэ як захочацца. Проста патрэбна будзе неяк абнавіць энергетыку рэчаў, абнавіць кватэру не толькі як фон, але і як змест.

Калі вы падлічыце ўсё вышэйпералічанае, выкінуўшы непатрэбныя вам пункты, альбо, наадварот, уключыце нейкі пункт, пра які не згадваецца ў артыкуле, то і атрымаеце каштарыс па рамонце аднапакаёўкі-«хрушчоўкі». У мяне ён склаў восем соцень даляраў.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

## Справа па Нямізе перададзена ў суд

Справу аб нядбайнасці супрацоўнікаў міліцыі, якая прывяла да гібелі людзей у падземным пераходзе на станцыі метро «Няміга» ў Мінску 30 траўня 1999 году, перададзена з Пракуратуры Рэспублікі Беларусь у Мінскі гарадскі суд. Нагадаем, што ў той дзень, апрача гібелі 53 чалавек, яшчэ больш за дзвесце пацярпелі ў выніку таўкатні.

У нядбайнасці абвінавачваюцца намеснік начальніка міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкаму Віктар Русак і былы начальнік аддзелу масавых мерапрыемстваў Міхаіл Кандрацін, які цяпер працуе ў Акадэміі МУС Беларусі.

Абвінавачаныя сваёй віны не прызналі. Русак падчас следства адмовіўся ад паказанняў. Кандрацін, як удзельнік ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, падпадаў пад амністыю, аднак таксама не прызнаў сябе вінаватым і ад амністыі адмовіўся.

Матэрыялы крымінальнай справы былі накіраваны ў Мінскі гарадскі суд у канцы лютага. Аднак суд перадаў справу для разгляду ў суд Цэнтральнага раёну Мінску. Пракуратура рэспублікі, не пагадзіўшыся з гэтым, адправіла хадайніцтва ў гарсуд аб разглядзе справы менавіта гэтай установай.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Векавечная трансфармацыя

*Мой дзед нарадзіўся ў Расійскай Імперыі, бацька – у Польскай Рэспубліцы, сам я і мае большыя дзеці – у Савецкім Саюзе, меншыя дзеці – у Рэспубліцы Беларусь, і ўсё – у адным раёне.*



Файна, толькі вось граматычная няпэўнасць слова Беларусь у назове дзяржавы прымушае задумацца, дзе народзяцца мае ўнукі? І вашыя таксама. Не спяшайцеся адказваць на гэтае просценькае пытанне.

Прайшло ж усяго толькі адзінаццаць гадкоў з таго часу, як выдуманая камуністамі новая супольнасць людзей – «савецкі народ» – пачала дзяліцца ў сабе. Рэферэндум быў.

Мала хто памятае, пра што тым разам начальства ў масаў пыталася. Нагадаю: «*Считаете ли Вы необходимым сохранение Союза Советских Социалистических Республик как обновленной федерации равноправных суверенных республик, в которой будут в полной мере гарантироваться права и свободы человека любой национальности?*»

Не ўзялі ўдзелу ў рэферэндуме 17 сакавіка 1991 году жыхары Арменіі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Малдовы і Эстоніі. Камуністы гэтых чатырох адсоткаў прагульшчыкаў не напалохаліся. Не напалохаліся і таго, што замест звыклых 99,99% галасаваць прыйшлі толькі 80% унесеных у спісы. Не шуганулiся нават, убачыўшы, што ўсяго 112 мільёнаў, альбо 76,4% тых, што маглі, прагаласавалі за касметычны рамонт СССРу.

Можа, не забаяліся, бо ў сваёй хапужнай інтэрбрыгадзе забыліся, што нацыя – гэта не працэнт, а адзінка. А хутчэй за ўсё, па сваёй старой звычцы разбіраліся абы-як – каб потым пакараць каго-небудзь, а пад сабой крэслы захаваць. І захавалі, паасобку.

Вось калі давялося мяняць завядзёнку і перабудоўвацца не на словах, а на справе. Асвойваць і тэрыторыю, што стала немаскоўскай, і гаспадаркай кіраваць дзеля рэальнага прыбытку, а не паказчыку. Атрымлівалася па-рознаму. І хоць лічбы сваім ашалелым ад незалежнасці і свабоды народам малявалі ў справаздачах прыгожыя, было ўсё няпроста.

Трансфармацыя сістэмы гаспадарання пацягнула змяненні сацыяльных адносінаў, стварыла напружанне на межах, скаланула ўсе кампаненты ладу новых дзяржаваў. Але паколькі істотных зменаў у кіраўніцтве краінаў не адбылося, пры ўладзе паўсюдна засталіся не проста камуністы, а сакратары парткамаў рознага ўзроўню, і яны не спяшаліся развітацца адзін з адным. Сустракаюцца і дагэнуль. Пра жыццё паталкаваць, пра трансфармацыю і інтэграцыю, на лыжах пакатацца...

Інтэгравацца з кожным годам усё цяжэй, разыходзяцца шляхі. Савецкая структура вытворчасці мяняецца ў розных кутах былога СССР з рознай хуткасцю і глыбінёй.

Вельмі цікава ў гэтым сэнсе пагрупаваць дзяржавы адпаведна тым ідэалагічным штампам, што напладзілі апошнімі гадамі тутэйшыя і замежныя з тутэйшых палітолагі і паліттэхнолагі-самавукі. Высвятляецца, што калі прыняць за 100% узровень прамысловай вытворчасці 1990 году, трансфармацыйны спад у «мусульманскіх» краінах аказаўся на 6,6 працэнтных пункту меншы, чым у «хрысціянскіх».

У той жа час «славянскія» дзяржавы на 22,2 працэнтных пункту апярэджваюць «неславянскія». Але славянаправаслаўныя перавагі, з якімі легкадумна гуляюцца некаторыя недальнабачныя дзеячы, тут ні пры чым. Дастаткова падзяліць краіны на тыя, што ваявалі альбо ваююць, і тыя, дзе вайны не было, каб усё стала зразумела. Мір дае перавагу ў 7 працэнтных пунктаў. Так што старыя людзі не зусім здурнелі, калі кажуць: «Абы вайны не было».

Нашыя разлікі паказваюць, што сёлета можна смела казаць пра завяршэнне трансфармацыйнага спаду па ўсім былым Саюзе. На малюнку добра відаць, дзе і калі ён завяршыўся.

А каб зразумець, хто пакрочыць у будучыню больш упэўнена, чым астатнія, спашлемся на высновы экспертаў. Спецы па трансфармацыі сцвярджаюць, што лепей атрымліваецца ў тых, хто забяспечыў больш высокі тэмп росту спажывання хатніх гаспадарак за часы рэстаўрацыі капіталізму. Вось вам

| | |
|---|---|
| Азербайджан | 267 |
| Казахстан | 147 |
| Літва | 142 |
| Эстонія | 135 |
| Латвія | 131 |
| Кіргізія | 122 |
| Малдова | 116 |
| Расія | 116 |
| Таджыкістан | 107 |
| Украіна | 106 |




Гады завяршэння трансфармацыйнага спаду




Узровень вытворчасці прамысловай прадукцыі ў 2001 годзе, 1990 г.=100%:

рост заработнай платы, разлічанай праз парытэт пакупной здольнасці (то бок праз параўнанне таго, колькі аднолькавых тавараў можна купіць на адну зарплату) у краінах, па якіх ёсць пэўныя звесткі з 1996 па 2001 год.

Ну, а вы, шаноўныя, паводле адмыслоўцаў нашага Мінстату, купляеце сёння на сваю сярэднюю зарплату на 75% болей тавараў і паслугаў, чым у 1996 годзе.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# Нацыі прапанаваны Нацыянальны гімн

## *Янку Купалу прапяюць малітву Наталлі Арсенневай*

*Учора быў апошні дзень прыёму Дзяржаўнай камісіяй прапановаў тэксту і музыкі дзяржаўнага гімну Рэспублікі Беларусь. Менавіта на гэты дзень Нацыянальны арганізацыйны камітэт святкавання Дня Волі – 84-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР – прызначыў Урачысты сход для прыняцця Нацыянальнага гімну. Напярэдадні з гэтай нагоды Нацыянальны арганізацыйны камітэт прыняў Заяву да грамадзянаў Беларусі, дзе, у прыватнасці, зазначана:*

«Ужо больш за дзесяць гадоў мы жывём у незалежнай краіне... Аднак за гэтыя больш чым дзесяць гадоў Беларусь так і не стала сапраўды незалежнай. У 1995 г. пасля ганебнага, сфальсіфікаванага рэферэндуму ўлада адабрала ў грамадзянаў краіны нацыянальны герб і сцяг. А такога атрыбуту незалежнасці, як Нацыянальны Гімн, мы не маем да гэтага часу.

*Менавіта ідэя прыняцця сапраўднага Нацыянальнага Гімну аб'ядnala сёння эліту беларускага народу, знакавых асобаў, найлепшых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, навукоўцаў і грамадскіх дзеячоў. Гэтыя людзі не спадзяюцца на сённяшнюю ўладу ды на тое, што яна зможа быць аб'ектыўнаю ў пытанні прыняцця беларускага гімну. Гэтыя людзі вырашылі самі ўзяць адказнасць. Нацыянальны Гімн хутка будзе прыняты. Для гэтага з усіх прапанаваных варыянтаў будзе адабраны толькі адзін. Мы ўпэўненыя, што ён стане Дзяржаўным гімнам Беларусі».*

> **Магутны Божа**
>
> **Словы Н. Арсенневай**
> **Музыка М. Равенскага**
>
> Магутны Божа! Уладар сусветаў,
> Вялікіх сонцаў і сэрц малых!
> Над Беларусяй, ціхай і ветлай,
> Рассып праменні свае хвалы.
>
> Дай спору ў працы штодзённай, шэрай,
> На лусту хлеба, на родны край,
> Павагу, сілу і веліч веры
> У нашу праўду, у прышласць – дай!
>
> Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
> Учынкам нашым пашлі ўмалот!
> Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай
> Краіну нашу і наш народ!

І вось настаў дзень Урачыстага сходу. У канферэнц-залі Палацу мастацтваў сабраліся пералічаныя ў Заяве «эліта, знакавыя асобы, найлепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, навукоўцы і грамадскія дзеячы». Усіх разам болей за 100 чалавек. Пануе добразычлівы настрой, і ніхто не задаецца пытаннем, а нашто мы ўрачыста сыходзімся менавіта 10 сакавіка, у апошні момант акрэсленага ўрадам часу для падачы варыянтаў гімну? Чаму нельга прымаць Нацыянальны гімн шляхам рэйтынгавага апытання, прыкладам, 24 сакавіка на святочным мітынгу ці наогул праводзіць анкетаванне сярод розных групаў народу ў любы месяц году? Ці дадасць павагі прынятаму Нацыянальнаму гімну гэткая ліхаманкавасць і сумнеўная легітымнасць Сходу, на які зарэгістраваліся людзі, незразумела кім дэлегаваныя? Таксама як і нязначная колькасць твораў, прапанаваных для выбару: «Радзіма мая дарагая», два варыянты «Пагоні», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа» і кант з «Полацкага сшытку» XVII стагоддзя.

Аляксей Марачкін, які старшыняваў на Сходзе, у кароткай прадмове злучыў неабходнасць вырашэння праблемы Нацыянальнага гімну з патрэбамі развіцця дэмакратычнага руху і самастойнасці нашай дзяржавы. Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, кампазітар Віктар Войцік, Генадзь Бураўкін распавялі пра гісторыю творчых пошукаў дзяржаўнага гімну на пачатку 1990-х гадоў і выказалі свае адносіны да кожнага з прапанаваных Сходу твораў. Усе названыя песні і кант з «Полацкага сшытку» прагучалі ў запісах, падабраных, трэба сказаць, не надта ўдала. Адчувалася, што гімнавы зборнік рыхтаваўся нахапкам і збіралі з розных крыніцаў. Таму «Радзіма мая дарагая» захоўвала ўсе свае сэкцыя адценні, «Пагоня» гучала як маршавы палкавы спеў (мужчынскі хор), «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» таксама быў выкананы без жаночых галасоў; адсутнасць агульнага маштабу, адных выканаўцаў не дазваляла рабіць карэктныя ацэнкі. Адчувалася і сцэнарная зададзенасць Сходу, арыентаванасць на перавагу песні «Магутны Божа». Праслухоўваючы «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» і «Магутны Божа», прэзідыум і следам, зразумела, заля палічылі неабходным аддаць ім гонар уставаннем. Багдановічаву «Пагоню», аднак, праслухалі седзячы. Але неабходна зазначыць, што найбольш эмацыйна паўплываў на удзельнікаў Сходу кант «Фанфары» з «Полацкага сшытку». Яго ацэньвалі як найлепшы гімн для Беларусі ў будучыні, калі паэты здолеюць напісаць адпаведна ўрачыстыя і змястоўныя словы.

У дыскусіі, праведзенай хуткай для праформы, удзельнічалі мастак Мікола Купава, адвакатка Вера Страмкоўская, прадстаўнік згуртавання беларускіх татараў «Аль-Кітаб», старшыня Саюзу мастакоў Уладзімір Басалыга, сакратар незарэгістраванага руху Малады Фронт Аляксей Шэін, Павел Знавец, якія выказаліся за «Магутны Божа». Адзіным нечаканым голасам у гэтым аблеркаванні быў выступ паэта Сержука Сокалава-Воюша, які лічыць, што Нацыянальным гімнам мусіць быць «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а «Магутны Божа» – малітоўны спеў. Першы арыентуе на адказнасць асобы за радзіму, другі – на безадказнасць асобы, якая перадаручае клопат небу. Цікава, што, па словах Сокалава-Воюша, гэтак ставілася да абодвух спеваў і сама Арсеннева, аўтар тэксту «Магутны Божа»: як гімн БНР яна спявала «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», а ў царкве – «Магутны Божа». Бо ў малітве Арсенневай усё вырашае Госпад, што падкрэсліваюць дзеясловы (рассып, дай, пашлі, зрабі). Не можа нацыя яднацца на малітоўных просьбах аб вышнім заступніцтве. Але ўражанне такое, што словаў Сокалава-Воюша Сход не пачуў. Панавала перакананасць, што «Магутны Божа» зразумелы кожнаму, незалежна ад канфесіі, прафесійнага занятку, нацыянальнасці, бо кожны чалавек мае вопыт звяртання да Бога, і словы верша адлюстроўваюць духоўны стан чалавека, яго злучанасць са светам і сусветам, яго прывязанасць да роднай зямлі, якая створана Богам для шчаслівага жыцця. Адзінай заўвагай было пажаданне надаць музыцы пры аранжыроўцы больш энергічнасці, больш жывы тэмп, бо ў цяперашнім сваім гучанні яна выклікае глыбокі смутак. Рэйтынгавае галасаванне (падняццем рук) дало наступныя вынікі адносна права твораў быць Нацыянальным гімнам:

«Радзіма мая дарагая» – 1, кант «Фанфары» – 29, «Пагоня» – 19, «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» – 23, «Магутны Божа» – 63.

Абвешчаныя вынікі былі сустрэты апладысментамі, і Аляксей Марачкін павіншаваў удзельнікаў Сходу з тым, што Нацыянальны гімн прыняты.

У гэты ж дзень рашэнне Урачыстага сходу было перададзенае ў Міністэрства культуры, у Дзяржаўную камісію, якая з ініцыятывы ўладаў займаецца прыняццем новага гімну.

Да месца нагадаць, што Нацыянальны Аргкамітэт святкавання Дня Волі плануе стварыць рабочую групу, якая будзе ажыццяўляць папулярызацыю гімну, абранага на Урачыстым сходзе. Цэнтральнай акцыяй падчас святкавання Дня Волі ў Мінску ды іншых гарадах Беларусі «будзе агучанае масавым хорам з удзелам многіх мастацкіх калектываў, вядомых людзей каля помніка Янку Купалу» выкананне гімну «Магутны Божа» 24 сакавіка, у нядзелю.

Як патлумачыў напярэдадні старшыня БНФ Вінцук Вячорка, «ускладанне кветак і масавае выкананне гімну не патрабуе дазволу і гэтаму не могуць быць пастаўленыя перашкоды ў выглядзе ланцугоў АМОНу, БТРаў і чаго яшчэ яны могуць... Гэта стваральны фармат, святочны, і ён не вымагае звязвацца з гэтай уладай, якая ўсё роўна дазволу ні на якую іншую акцыю не дала б. А так гэта наша свята, і мы будзем яго святкаваць».

Наколькі дарэчнае выкананне песні «Магутны Божа» на словы Н.Арсенневай каля помніка Купалу, які сам напісаў шмат песень, што сталі народнымі і маглі быць гімнам? Усё ж гэта Купалу належаць радкі, якія амаль за сто гадоў не састарэлі і на якія і сёння адгукаецца сэрца, як і тады, калі іх паклалі на музыку кампазітар М.Янчук:

*Не загаснуць зоркі ў небе*
*Покі неба будзе,*
*Не загіне Край забраны*
*Покі будуць людзі.*

**Аддзел інфармацыі**



Прэзідыум Сходу: Вольга Іпатава, Аляксей Марачкін, Віктар Войцік, Уладзімір Басалыга

Фота Ул.ШЛАПАКА



Удзельнікі Урачыстага сходу слухаюць песню «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»



Народны паэт Ніл Гілевіч

Фота Ул.ШЛАПАКА



Мастак Мікола Купава



Паэт Сяржук Сокалаў-Воюш

**ВОЙСКА**

## Супраць «дзедаўшчыны»

Мінабароны сумесна з Ваеннай пракуратурай і Ваенным судом Беларусі распрацоўваюць праграму захадаў па прадухіленні нестатутных адносінаў ва Узброеных сілах. Пра гэта паведаміў БелаПАНу начальнік упраўлення маральна-псіхалагічнага забеспячэння Узброеных сіл Беларусі палкоўнік Уладзімір Сераштан.

Нестатутныя адносіны «прапаведуюць у асноўным тыя маладыя людзі, хто вёў антыграмадскі лад жыцця на «грамадзянцы», меў приводы ў міліцыю, хто знаходзіўся ў маладзёжных злачынных групоўках, а яшчэ тыя, у каго вельмі нізкі адукацыйны і культурны ўзровень, у каго культ сілы – лейтматыў яго паводзінаў», – сказаў У.Сераштан.

Паводле яго словаў, вынікі сацыялагічных апытанняў моладзі, якая прызываецца ў войска, сведчаць пра «вельмі нізкі паказчык культурнага ўзроўню». Так, толькі 11 працэнтаў прызыўнікоў чыталі мастацкую літаратуру, 9 працэнтаў – наведвалі тэатры і музеі, а 95 працэнтаў апытаных асноўнай крыніцай атрымання інфармацыі называюць тэлебачанне.

У.Сераштан паведаміў, што праграма, якая распрацоўваецца, прадугледжвае шэраг эфектыўных захадаў па барацьбе з нестатутнымі адносінамі. Вырашана, у прыватнасці, давозіць да агульнага ведама ўсе ўчынкі і злачынствы, якія здараюцца на глебе нестатутных адносінаў у арміі. «Мы гэтага не баімся. Нам няма чаго ўтойваць, – падкрэсліў У.Сераштан. – Салдаты да нас прыходзяць з нашага ж грамадства, – і няхай іх родныя і блізкія ведаюць, як яны служаць».

Плануецца таксама зняць відэафільмы пра адкрытыя працэсы над тымі вайскоўцамі, каго злавілі на вымагальніцтве і здзеках са сваіх таварышаў па службе. «Гэтыя фільмы з каментарамі ваенных юрыстаў мы пакажам ва ўсіх вайсковых часцях і падраздзяленнях», – сказаў У.Сераштан.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Швейцарыя развіталася з нейтралітэтам

*Колькасць сябраў ААН неўзабаве павялічыцца да 190. Свой шматвяковы нейтралітэт адносна сусветных працэсаў рыхтуецца спыніць Швейцарыя. У мінулыя выходныя былі падведзены афіцыйныя вынікі рэферэндуму – за ўступ у ААН выказалася большыня жыхароў краіны ў большыні кантонаў.*

Вынікі апошняга рэферэндуму ў Швейцарыі цалкам можна назваць эпахальнымі. 55% швейцарцаў выказаліся за ўступ іх краіны ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў. За далучэнне да 189 краін-сяброў ААН прагаласавалі выбарцы 12 з 23 кантонаў, што неабходна для прыняцця канчатковага рашэння, паводле швейцарскіх законаў. Прыхільнікі актывізацыі ролі Швейцарыі ў сусветных працэсах перамаглі з мінімальным адрывам. Прадказаць вынік рэферэндуму было немагчыма да самага апошняга часу.

Сітуацыя праяснілася толькі пасля таго, як былі падлічаны бюлетэні ў найбуйнейшым швейцарскім кантоне Цюрыху.

Аглядальнікі называюць рашэнне швейцарскіх грамадзян пераломным момантам у гісторыі краіны. Раздзеленая на 23 кантоны дзяржава цягам некалькіх стагоддзяў існавала ў пэўным палітычным вакууме. Швейцарцы захоўвалі нейтралітэт, у прыватнасці, у гады Другой сусветнай вайны, а да апошняга часу іх дзяржава заставалася адзінаю (калі не лічыць Ватыкану), што не мела паўнапраўнага сяброўства ў ААН і не імкнулася да яго. Праціўнікі далучэння да гэтай арганізацыі перасцерагалі, што нейтральны курс Швейцарыі можа апынуцца пад пагрозаю і што ўступ у ААН можа стаць пралогам да ўступу ў *NATO*. У выніку на мінулым рэферэндуме ў 1986 годзе супраць уступу ў ААН прагаласавалі 75% насельніцтва краіны.

Волевыяўленне швейцарскага электарату выклікала падкрэслена станоўчую рэакцыю з боку кіраўніцтва ААН. Генсек ААН Кофі Анан заявіў: «Галасаванне сведчыць пра давер і прыхільнасць швейцарцаў да дзейнасці і ідэалаў ААН». Паводле словаў Анана, Швейцарыя «ўжо доўгі час грае актыўную ролю ў дзейнасці Аб'яднаных Нацыяў і прыўносіць у яе свой неацэнны досвед». *CNN* адзначае ў звязку з гэтымі заявамі, што Швейцарыя ўжо доўгія гады супрацоўнічае з такімі структурамі ААН, як Сусветная арганізацыя аховы здароўя і Міжнародная арганізацыя працы. Нягледзячы на гэта, да апошняга часу Швейцарыя захоўвала ў ААН статус назіральніка. У гутарцы з кіраўніком швейцарскага МЗСу Ёзэфам Дайсам Анан даў зразумець, што прыняцце Швейцарыі ў ААН, найверагодней, адбудзецца ў верасні гэтага году на 57-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.



Аналітыкі ўплывовай газеты *Washington Post* мяркуюць, што адной з прычын змены нейтральнага курсу Швейцарыі сталі падзеі 11 верасня.

Тэракты ў Нью-Йорку і Вашынгтоне з усёй відавочнасцю паказалі, што заставацца ў ізаляцыі ад сусветных працэсаў і лакальных трагедыяў немагчыма. Якраз тэракты ў ЗША выклікалі крызіс у працы аднае з найбуйнейшых швейцарскіх авіякарпарацыяў *Swissair*.

# Блок Юшчанкі апярэджвае камуністаў

Пасол Украіны ў нашай краіне Анатоль Дронь на той факт, што Аляксандр Лукашэнка прыняў дэлегацыю Камуністычнай партыі Украіны на чале з Пятром Сіманенкам, заявіў наступнае: «Наш прэзідэнт і нашыя кіраўнікі не дазваляюць сабе прымаць прадстаўнікоў апазіцыйных да ўлады арганізацыяў і адкрыта іх падтрымліваць».

Што да парламенцкіх выбараў, якія маюць адбыцца ва Украіне 31 сакавіка, Анатоль Дронь сказаў, што ў міжнародных назіральнікаў пакуль значных прэтэнзіяў да таго, як праходзіць кампанія па выбарах у Вярхоўную Раду, няма. Хоць яны не выключаюць, што падчас гэтай выбарчай кампаніі можа быць выкарыстаны адміністрацыйны рэсурс. Сярод іншых трывожных знакаў назіральнікі заўважаюць, што, прыкладам, на дзяржаўным тэлеканале УТН-1 40% эфіру, прысвечанага парламенцкім выбарам, аддадзены агітацыі і інфармацыі аб прапрэзідэнцкім блоку «За адзіную Украіну» (па-ўкраінску «*За єдину Україну!*», ці коратка «*За єдУ!*»). Анатоль Дронь сказаў, што электронныя СМІ зусім не знаходзяцца пад поўным кантролем Адміністрацыі прэзідэнта Леаніда Кучмы. Маўляў, гэта не так: канал «Інтэр», што складаецца з украінскіх і *ОРТ*-шных праграм (нешта падобнае будзе на БТ-2, што зараз ствараецца ў нашай краіне), увесь час трубіць пра Сацыял-дэмакратычную партыю (аб'яднаную) на чале з Уладзімірам Медведчуком.

На выбарах у Вярхоўную Раду зарэгістраваны 35 партыяў. На адно дэпутацкае месца ва ўкраінскім парламенце прэтэндуюць 9 чалавек. Анатоль Дронь паведаміў рэйтынгі партыяў са спасылкай на адзін з самых аўтарытэтных ва Украіне цэнтраў эканамічных і сацыялагічных даследаванняў. Паводле яго, на канец лютага па сімпатыях выбарцаў наперадзе ідзе блок колішняга віцэ-прэм'ера Украіны Віктара Юшчанкі «*Наша Україна*». У яго 20%, прычым у заходніх рэгіёнах Украіны – ажно 47%. Кампартыя Украіны мае 14,5%, Сацыял-дэмакратычная партыя (аб'яднаная) – 8%, «*За єдУ!*» – 6,5%, «Жанчыны за будучыню» – 5%. Трохі вышэй ці трохі ніжэй за 4% – бар'ер, які трэба пераадолець партыям, каб патрапіць у Вярхоўную Раду – у Партыі зялёных, «Яблыка», блоку Юліі Цімашэнкі, блоку Наталлі Вітрэнкі, Сацыялістычнай партыі.

Галасаваць на выбарах ва ўкраінскі парламент будуць і грамадзяне Украіны, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. У нашай краіне будуць арганізаваныя два ўчасткі для галасавання – у Мінску пры пасольстве Украіны і пры консульстве ў Брэсце – прымацаваныя да Кіеўскай выбарчай акругі. Па прагнозах, у галасаванні на гэтых двух беларускіх участках удзел возьмуць каля 500-530 чалавек. Гэтулькі ўкраінскіх грамадзян галасавалі ў Беларусі на апошніх выбарах прэзідэнта Украіны.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# ЗША распрацоўваюць планы выкарыстання ядравай зброі

*Адміністрацыя Буша прадпісала міністру абароны ЗША распрацаваць планы выкарыстання ядравай зброі на выпадак непрадбачаных акалічнасцяў супраць прынамсі сямі краін і прыступіць да стварэння ядравай зброі, якую мяркуецца выкарыстоўваць у пэўных баявых сітуацыях. Пра гэта стала вядома з сакрэтнага дакладу Пентагону, які трапіў у распараджэнне* The Los Angeles Times.

У сакрэтным дакладзе, прадстаўленым 8 студзеня 2002 году ў Кангрэс ЗША, гаворыцца, што Пентагон павінен быць гатовы да выкарыстання ядравай зброі супраць Кітаю, Расіі, Іраку, Паўночнай Карэі, Ірану, Лівіі і Сірыі. Тамсама адзначаецца, што гэтая зброя павінна выкарыстоўвацца ў сітуацыях трох тыпаў: супраць цэляў, недаступных для няядравай зброі; у адказ на атакі з выкарыстаннем ядравай, біялагічнай і хімічнай зброі; альбо «ў выпадку раптоўных ваенных акцыяў». Копія гэтага дакладу трапіла ў рукі ваеннага аналітыка Уільяма Аркіна.

Афіцыйныя асобы даўно прызнавалі, што дэталёва распрацаваныя планы ядравага нападу на Расію існуюць. Тым не менш, па словах аналітыкаў, даклад «Аб стане ядравага патэнцыялу ЗША» ўпершыню дае магчымасць пазнаёміцца з афіцыйным спісам краін – патэнцыйных цэляў нападу з выкарыстаннем ядравай зброі. На думку некаторых аналітыкаў, публікацыя падрабязнасцяў гэтага дакументу можа выклікаць сур'ёзную рэакцыю з боку ўрадаў краін, пералічаных у афіцыйным спісе.

«Гэта як дынаміт, – лічыць Джозэф Цырынцыёнэ, эксперт па ядравых узбраеннях з фонду Карнегі за мір між народамі ў Вашынгтоне. – Магу сабе ўявіць, што гэтыя краіны будуць казаць у ААН».

Прыхільнікі кантролю за ядравымі ўзбраеннямі лічаць, што дырэктывы дакладу, датычныя распрацоўкі ядравай зброі меншай разбуральнай моцы, могуць азначаць, што адміністрацыя Буша збіраецца ігнараваць табу на выкарыстанне ядравых узбраенняў, акрамя скрайніх выпадкаў. Яны папярэджваюць, што падобныя захады могуць небяспечным чынам дэстабілізаваць становішча ў свеце, падштурхнуўшы іншыя краіны да распрацоўкі ядравых узбраенняў.



Амерыканскія палітыкі не раз падкрэслівалі, што ЗША не будуць выкарыстоўваць ядравай зброі супраць няядравых дзяржаваў, выключаючы выпадкі, калі апошнія супрацоўнічаюць з ядравымі дзяржавамі. Наконт таго, ці будуць ЗША выкарыстоўваць ядравую зброю ў адказ на напад з выкарыстаннем хімічнае або ядравае зброі, яны выказваліся, аднак, без вялікай пэўнасці.

У дакладзе гаворыцца, што Пентагон мусіць быць гатовы да магчымасці выкарыстання ядравай зброі ў араба-ізраільскім канфлікце, у вайне паміж Кітаем і Тайванем і пры нападзе з боку Паўночнай Карэі. Ядравая зброя можа спатрэбіцца і ў выпадку, калі Ірак атакуе Ізраіль або іншага свайго суседа.

Расія больш не лічыцца афіцыйным «ворагам», але поруч з гэтым прызнаецца, што гэтая краіна мае вялізны ядравы арсенал у 6 000 ядравых боегаловак і каля 10 000 адзінак ядравых узбраенняў меншае разбуральнае моцы, які па-ранейшаму выклікае трывогу.

Афіцыйныя асобы не раз казалі пра перавагі выкарыстання ядравай зброі для разбурэння ваенных комплексаў, размешчаных у глыбокіх тунелях і пячорах. Такія комплексы будуюцца шмат якімі краінамі, асабліва пасля вайны ў Персідскім заліве 1991 году. Паводле іх словаў, ядравая зброя здатна генераваць магутныя штуршкі, якія разбураюць добра ўмацаваныя бункеры глыбокага залягання.

Яны ж сцвярджаюць, што магутныя ядравыя ўзбраенні маюць гэтулькі пабочных разбуральных эфектаў, пачынаючы з выбуху і канчаючы значным павышэннем тэмпературы і радыяцыяй, што самі «стрымліваюць» сваё выкарыстанне. На іх думку, Пентагон мусіць валодаць «усім спектрам сродкаў стрымлівання» – іншымі словамі, шырокім спектрам узбраенняў, якія могуць быць скарыстаны супраць верагоднага праціўніка.

Пентагон актыўна планаваў выкарыстанне тактычнай ядравай зброі яшчэ ў 1970 годзе, але цягам двух апошніх дзесяцігоддзяў адмовіўся ад гэтай ідэі.

На думку аналітыкаў, фраза «ў выпадку раптоўных ваенных акцыяў», якая змяшчаецца ў дакладзе, адлюстроўвае боязь Пентагону, што дзяржавы-«ізгоі» або тэрарысты могуць выкарыстаць абсалютна новую зброю, якая перавысіць абарончы патэнцыял звычайных узбраенняў ЗША.

Адміністрацыя Буша прапанавала скараціць на працягу 10 гадоў арсеналы наступальных ядравых узбраенняў на дзве трaціны – да 1 700–2 000 боегаловак. Афіцыйныя асобы таксама казалі пра намер выкарыстоўваць звычайныя ўзбраенні дакладнага навядзення ў шэрагу аперацыяў, якія раней меркавалася праводзіць з выкарыстаннем ядравай зброі.

Тым не менш, на думку крытыкаў, даклад пярэчыць заявам пра тое, што адміністрацыя Буша мае намер пазбыцца ролі вядучай ядравай дзяржавы.

«Гэта азначае, што ядравыя ўзбраенні ператвараюцца з сродку прадухілення вайны ў сродак яе вядзення», – лічыць Цырынцыёнэ.

**Пол РЫХТЭР**

# Сакрэтная аперацыя супраць цыганоў

У Маскве завершылася спецаперацыя «Табар», якая праводзілася пад грыфам «сакрэтна».

Пра гэта ў Цэнтр па правах цыганоў у Будапешце паведаміла віцэ-прэзідэнт Міжнароднага саюзу цыганоў, доктар гістарычных навук Надзея Дэметр.

Паводле некаторых звестак, маскоўская міліцыя планавала занесці ўсіх цыганоў-правапарушальнікаў у картатэку, сфатаграфаваць іх і ўзяць у іх адбіткі пальцаў. Але прадстаўнікі праваахоўных органаў адмаўляюцца паведаміць хоць нешта пра аперацыю, хоць і не адмаўляюць самога факту яе правядзення.

Па словах Дэметр, у цыганоў застаецца адзіны спосаб адстаяць свае правы – звярнуцца ў міжнародныя арганізацыі.

«Вось ужо шмат гадоў расійская дзяржава вырашае гэтую праблему карнымі метадамі, – лічыць Дэметр, – замест таго каб займацца адукацыяй і паляпшэннем жыцця людзей. Для гэтага трэба прыняць адпаведныя законы і стварыць арганізацыю, якая займалася б цыганскім пытаннем на дзяржаўным узроўні. Праваахоўныя органы павінны зразумець, што цыганы – гэта нацыянальнасць, а не крымінальная сацыяльная група».

# Пасажыры павярнулі авіялайнер у аэрапорт

Пасажыры чартэрнага рэйсу партугальскай авіякампаніі *Yesair* прымусілі пілотаў вярнуць самалёт у аэрапорт Мілану, убачыўшы, што адзін з рухавікоў самалёта загарэўся, паведамляе *Reuters*.



Пілот самалёта, які ляцеў з міланскага аэрапорту *Malpensa* на Кубу, паспрабаваў супакоіць пасажыраў, сказаўшы, што самалёту нічога не пагражае. Аднак пасажыры, перапужаныя языкамі полымя, якое вырывалася з аднаго з рухавікоў самалёта падчас узлёту, запатрабавалі неадкладна перарваць палёт і вярнуцца ў аэрапорт.

Не пераканаўшы 250 пасажыраў працягнуць пералёт, пілот прапанаваў вырашыць гэтую справу галасаваннем. Пераважнай большасцю галасоў пасажыры пастанавілі зараз жа вяртацца.

Адзін з пасажыраў сказаў: «Я бачыў полымя, гэта было неверагодна. Было падобна, што рухавік вось-вось рване».

Тым не менш прадстаўнікі авіякампаніі *Yesair* адмаўляюць факт загарання: «Ніякага полымя не было. Пасажыры маглі бачыць толькі дым, што бывае даволі часта ў такіх сітуацыях. Пасля таго як самалёт прызямліўся і пасажыры выйшлі з яго, ён амаль адразу адправіўся ў Лісабон».

Пасажыры таго рэйсу выляцелі на Кубу назаўтра іншым самалётам.

# Шаўчэнка і беларусы

*З нагоды абвяшчэння беларускім урадам 2002 году годам украінскага паэта Тараса Шаўчэнкі пасол Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь 6 сакавіка правёў прэс-канферэнцыю, на якой распавёў пра мерапрыемствы, што будуць ладзіцца ў звязку з гэтым у нашай краіне.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

Сёлета 9 сакавіка споўнілася 188 гадоў з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Памёр кабзар 10 сакавіка 1861 году, пражыўшы 47 год. Аднак дзень Шаўчэнкі ўкраінцы адзначаюць 22 траўня – тады ягонае цела перавезлі з Санкт-Пецярбургу і перапахавалі на Канеўскай гары, як і завяшчаў сам славуты пісьменнік.

«Запавет» Шаўчэнкі перакладзены на сотню моваў свету. У тым ліку і на беларускую – гэта ўпершыню зрабіў Янка Купала ў 1913 годзе. Мала хто ведае, што Тарас Шаўчэнка быў яшчэ і мастаком: ён скончыў Акадэмію мастацтваў у Санкт-Пецярбургу.

Паводле словаў Анатоля Дроня, на беларускай зямлі цяпер жывуць каля 240 тысяч ураджэнцаў Украіны, штогод сюды наведваюцца да 50 тысяч украінцаў.

Сам Шаўчэнка пабываў у Беларусі ў 15-гадовым узросце, калі яшчэ казачком ехаў праз Мінск у сядзібу свайго пана Энгельгарта ў Вільню. Звязана імя Шаўчэнкі з Беларуссю не толькі гэтым: так, Янка Купала прысвяціў кабзару цэлую паэму «Тарасова доля». Вось і звярнуліся ўкраінскія грамадскія арганізацыі, што дзейнічаюць на Беларусі, да беларускага ўраду некалькі гадоў таму з прапановаю ўшанаваць памяць Шаўчэнкі помнікам у Мінску, а зусім нядаўна – з ідэяй абвесціць 2002 год ягоным годам.

З другой ініцыятывай праблемаў не ўзнікла, а вось помнік паэту сярод беларусаў прынялі неадназначна. Пра гэты помнік, падораны ўкраінцамі, некаторыя нашыя скульптары выказваюцца досыць крытычна: маўляў, на табе, Божа, што мне нягожа. Потым доўга разбіраліся, дзе яго паставіць, каб засталіся задаволеныя абодва бакі. У выніку сышліся на скверы на Старавіленскай вуліцы, каля ўкраінскай амбасады. Помнік ужо стаіць, але ягонае афіцыйнае адкрыццё адбудзецца толькі ў красавіку падчас Дзён эканомікі і культуры Кіева ў Мінску. Дарэчы, помнікі ўкраінскаму паэту з'явіліся ў Вашынгтоне, Таронта, Маскве, Санкт-Пецярбургу і Варшаве. У верасні ягоны бюст усталююць яшчэ і ў Брэсце.

На шаўчэнкаўскі год украінскі бок мае вялікія культурныя планы. Сёлета на Беларускім тэлебачанні пакажуць 4 серыі дакументальнага фільму, які распавядае пра жыццё і творчасць Тараса Шаўчэнкі. У траўні пройдуць Дні ўкраінскага кіно, цягам якіх у Мінск прывязуць 12 фільмаў кінастудыі імя Даўжэнкі і Адэскай кінастудыі. У чэрвені мы з суседзямі абмяняемся тэатральнымі гастролямі: да нас прыедзе Чарнігаўскі акадэмічны музычна-драматычны тэатр імя Т.Шаўчэнкі, а да ўкраінцаў паедзе госцем наш Купалаўскі тэатр. Улетку ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва чакаецца адкрыццё выставы мастакоў з радзімы Шаўчэнкі – Чаркаскай вобласці, а ў верасні ў нашым Нацыянальным мастацкім музеі будзе выстаўляцца экспазіцыя карцінаў з украінскага Нацыянальнага мастацкага музею.

У кнігарні «Акадэмічная кніга» ў сакавіку з'явіцца аддзел украінскай кнігі. Па словах пасла, украінскае кнігавыданне зараз перажывае вялікі бум, таму адкрыццём толькі аднаго аддзелу прэзентацыя ўкраінскай кнігі ў Беларусі не абмяжуецца. Магчыма, у Мінску, Гомелі і Кобрыне таксама ўзнікнуць украінскія кнігарні.

Разам з тым ува Украіне цяпер яшчэ і бум на помнікі. Напрыклад, у Кіеве ў планах – 7 помнікаў з вяршнікамі, з якіх ужо стаяць чатыры.

А вось ці паставяць у Кіеве помнікі славутым беларускім паэтам Янку Купалу і Якубу Коласу, для якіх сёлетні год юбілейны, пасол Украіны адназначна сказаць не змог. Але запэўніў, што калі гэта адбудзецца, то ім абавязкова дастанецца месца ў цэнтры Кіева. Пакуль гэтым годам дакладна адкрыецца помнік Максіму Багдановічу ў Ялце.

А з гэтага навучальнага году ўкраінскія школьнікі пачалі вывучаць творчасць трох нашых літаратурных класікаў – Купалы, Коласа і Багдановіча.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Праваслаўнае талібанства

*Паколькі Руская праваслаўная царква трактуе Беларусь як сваю кананічную тэрыторыю, прэтэндуючы тут на ролю адзінага носьбіта сапраўднай веры, то гэткія амбіцыі нясуць у сабе пагрозу для свабоды сумлення ў грамадстве. У гэтым дачыненні цікавая пазіцыя расійскіх праваабаронцаў, іхняя апошняя ініцыятыва.*

На мінулым тыдні Камітэт рэлігійнай талерантнасці Расіі звярнуўся да прэзідэнта У.Пуціна з заклікам запрасіць Папу Рымскага ў краіну. Гэты камітэт узнік у выніку аб'яднання Камітэту абароны свабоды сумлення (праваабарончая арганізацыя, якая існуе з пачатку 1990-х гадоў) і Арганізацыі спрыяння ўсталяванню ў грамадстве свабоды сумлення (узнікла ў 1997 годзе пры Маскоўскай Хельсінкскай групе). Старшыня Грамадскага камітэту па абароне свабоды сумлення, вядомы праваабаронца, святар Глеб Якунін на прэс-канферэнцыі, дзе быў абвешчаны зварот, патлумачыў:



Глеб Якунін



Тодэвуш Кандрусевіч

«Мы звяртаемся да прэзідэнта Пуціна з прычыны непрывабнай кампаніі супраць каталіцкай царквы, і гэта вельмі сімптаматычна, бо ўсю гэтую кампанію вядуць фундаменталісцкія сілы, якія я назваў бы праваслаўным талібанствам. На жаль, і грамадскасць, і, тым болей, нашыя чыноўнікі нічога не разумеюць. Гэта надта недарэчныя сцверджанні, што Расія – кананічная тэрыторыя, і ўсе рускія як бы абавязаныя быць у праваслаўнай царкве. Гэта прапаведванне феадальнага прыгнёту. На такіх пазіцыях стаіць, на жаль, нашае афіцыйнае праваслаўе. Паняцце «кананічная тэрыторыя» ў кананічным праве азначае мяжу паміж епархіямі адной Царквы, але ніяк не межы «зонаў уплыву» розных Цэркваў».

Аўтары звароту расцэньваюць словы патрыярха Алексія II *«рускі народ... культурна, духоўна і гістарычна – паства Рускай праваслаўнай царквы...»* як прыкмету своеасаблівага «духоўнага рабаўладання», несумяшчальнага з паняццем свабоды сумлення. Яны звяртаюць увагу на цытату з Канцэпцыі Рускай праваслаўнай царквы, прынятай Саборам РПЦ у жніўні 2000 году: *«Зацвярджанне юрыдычнага прынцыпу свабоды сумлення сведчыць пра страту грамадствам рэлігійных мэтаў і каштоўнасцяў, пра масавую апастасію (адступніцтва) і фактычную індыферэнтнасць да справы Царквы і перамогі над грахом»*. Спробы схіліць заканадаўчую думку да адмены прынцыпу свабоды сумлення тояць небяспеку ўсталявання тэакратычнага рэжыму.

Відавочна, што стасункі РПЦ і Ватыкану робяцца ўсё горшымі. Рашэнне Папы Рымскага аб пераўтварэнні чатырох «апостальскіх адміністрацыяў» у Расіі ў паўнавартасныя епархіі выглядае даволі бяскрыўдна. Ачольнік беларускіх католікоў епіскап Тадэвуш Кандрусевіч растлумачыў, што гэты крок азначае «нармалізацыю» царкоўных структураў у краіне. Аднак мітрапаліт Кірыл, другі па ўплывовасці іерарх Рускай праваслаўнай царквы, палічыў, што Ватыкан мае намер «звярнуцца з пропаведдзю да нашага народу, каб навярнуць яго ў каталіцкую царкву». Ён таксама папярэдзіў, што Руская праваслаўная царква, магчыма, хутка разарве ўсе адносіны з Ватыканам.

У 1991 годзе маскоўская патрыярхія, паўстаўшы з савецкага паўбыцця, пачала сцвярджаць, што агромністая тэрыторыя, якую займаў раней Савецкі Саюз, ёсць яе «кананічная тэрыторыя». Яна сцвярджала, што на пэўнай тэрыторыі можа існаваць толькі адна епархія і адзін іерарх – у адносінах да яе «кананічнай тэрыторыі» гэта іерарх Рускай праваслаўнай царквы. На такой штучнай падставе афармленне каталіцкіх біскупстваў у Маскве, Саратаве, Іркуцку і Новасібірску разглядаецца як бессаромная дзёрзкасць. Але на фоне такіх пратэстаў добра відаць падвойныя стандарты маскоўскай патрыярхіі. Руская праваслаўная царква сама ўводзіць пасады архіепіскапа Берліну і Германіі і архіепіскапа Вены і Аўстрыі – епархій, якія, калі трымацца логікі маскоўскай патрыярхіі, належаць да кананічнай тэрыторыі Папы Рымскага. Перанос на рэлігійнае жыццё паняцця дзяржаўнага права сведчыць пра аўтарытарныя тэндэнцыі ў сучаснай Рускай праваслаўнай царкве.

Актыўнасць Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі таксама вымагае большай, чым сёння, увагі з боку грамадскасці, бо зафіксаваныя ў нас парушэнні свабоды сумлення грамадзянаў набываюць характар правіла.

**Пётр СЛАЎЧАНКА**

# Шлях да паліглоцтва

*Мы вучым замежную мову (прынамсі адну) у школе і ў ВНУ, але ў выніку большасць з нас, акрэсліваючы свой узровень ведання мовы ў якой анкеце, ужывае штамп «валодаю са слоўнікам», што значыць «вучыў, але так і не вывучыў».*

Шмат каго той школьны досвед назаўсёды адвярнуў ад нейкіх новых спробаў і перакана ў у адсутнасці ўсялякіх здольнасцяў да моваў. Аднак лінгвісты з гэтым нязгодныя і сцвярджаюць, што толькі 1% людзей сапраўды не здольны засвоіць ніякую замежную мову.

Занудны «школьны» (традыцыйны) падыход да вывучэння замежных моваў у свеце не адзіны. І калі з ім нічога не атрымалася, лепш змяніць метад. Напрыклад, на «інтэнсіў» ці «камунікатыў». Яны, дарэчы, зараз сталі вельмі папулярнымі. Інтэнсіўны метад скіраваны на хуткае і лёгкае навучанне праз гульні: вас ставяць у рэальную жыццёвую сітуацыю – і круціцеся як хочаце, але згуляць сваю ролю там вы мусіце на чужой мове. Гэты метад актывізуе ўсе чалавечыя магчымасці ад памяці да фантазіі, а запамінаецца найлепш тое, з чым у чалавека звязаныя нейкія перажыванні ці вобразы. Тут галоўнае – не зубрыць.

Большасць замежных моўных школаў зараз працуюць па метадзе «камунікатыву» – сумесі традыцыйнага «школьнага» падыходу з інтэнсіўным. Галоўны ўхіл спачатку ідзе на размене, засвойванне самых простых пабытавых фраз у гутарцы праз мадэляванне жыццёвых сітуацыяў. Граматыка і пераклады з'яўляюцца ўжо потым. Ёсць яшчэ і сугестыўны метад, ці, прасцей кажучы, унушальны. Лічыцца, што па ім можна вывучыць мову ў 2–5 разоў хутчэй, чымсьці традыцыйным шляхам. Зараз гэты метад практыкуюць пры навучанні ў Лінгвістычным універсітэце.

Аднак не трэба думаць, што той класічны падыход, паводле якога нас вучылі ў школах, зусім састарэў і больш не эфектыўны. Так, можа ён і будуецца на нуднай даўбежцы і вечных перакладах, аднак тыя, хто па ім вучыўся, заўсёды вызначаюцца добрым веданнем граматыкі і немалым лексічным запасам. Мова ў іх больш прыдатная да перакладаў і публічных выступаў, бо літаратурная. А вось каб ім зразумець простага носьбіта мовы ў вулічнай гутарцы і каб ён зразумеў іх, трэба пэўны час перавучвацца.

Каб авалодаць базавымі ведамі замежнай мовы, дастаткова 2–3 месяцаў заняткаў пры ўмове як мінімум прагладання дома вывучанага на занятках матэрыялу. Праз паўтара года заняткаў можна ўжо дарасці да сярэдняга ўзроўню ведаў, а дадводзіць свае веды да дасканаласці можна ўсё жыццё.

Вывучаць мову можна на курсах або з рэпетытарам. Курсы абыдуцца танней, аднак страта часу на іх складае да 30%, бо выкладчык мусіць аддаць час і іншым навучэнцам. Рэпетытарж падладжваецца толькі пад вас і вашыя слабыя месцы. На нашым рынку рэпетытарскіх паслугаў кошты за гадзіну заняткаў пачынаюць адлічваць ад 2 даляраў. Прычым без розніцы, ангельская гэта мова, польская ці беларуская. Толькі на экзатычныя мовы кошты вышэйшыя: за гадзіну японскай мовы, напрыклад, бяруць ад 4 даляраў, а мінімальны курс разлічаны на 30 гадзінаў. Напэўна, і «тарашкевіцу» адносяць да экзотыкі, бо на яе ў рэпетытараў таксама дзейнічае падвышаны тарыф.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

## ДАТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЁСЫ

### 11 сакавіка

**1702**. У Англіі пачала выходзіць першая штодзённая газета *Daily Courant*, якая мела камерцыйны поспех.

**1887**. Нарадзіўся пісьменнік і дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху Алесь Гарун. За антыўрадавую дзейнасць у 1908 г. быў сасланы ў Сібір. У 1917 г., ужо хворы на сухоты, вярнуўся, удзельнічаў у скліканні Усебеларускага з'езду і стварэнні БНР, рэдагаваў газету «Беларускі шлях».

**1917**. У Петраградзе паліцыя расстраляла дэманстрацыю супраць голаду, вайны і царызму. На бок дэманстрантаў перайшлі салдаты Паўлаўскага гвардзейскага палку, якія абстралялі паліцэйскіх. На наступны дзень паўстанне ахапіла ўвесь горад.

**1927**. У радыёэфір выйшла першая перадача для замежных слухачоў. Транслявалася яна з Галандыі на Інданезію.

**1972**. Падчас судовага працэсу ў Пальме-дэ-Малёрцы (Іспанія) абвінавачаны бок запатрабаваў пакараць 384.912-гадовым зняволеннем паштальёна Габрыеля Грандаса, які не даставіў па прызначэнні 42 768 лістоў (9 гадоў за кожны).

### 12 сакавіка

**1812**. Землятрус у Венесуэле зруйнаваў горад Каракас. Загінулі 20 тысячаў чалавек.

**1832**. Нарадзіўся Чарльз Бойкат (*Boycott*), англійскі намеснік у Ірландыі, кіраванне якога было настолькі непапулярным (адмовіўся знізіць арэндную плату за зямлю ў гады неўраджаю і голаду), што ірландцы замест чарговага паўстання вырашылі праспрабаваць новую форму пратэсту – адмовіліся размаўляць з галавой каланіяльнай адміністрацыі. Адсюль і паходзіць слова «байкот».

**1832**. У Парыжы прайшла прэм'ера балету «Сільфіда», дзе ўпершыню балерыны выйшлі на сцэну ў традыцыйных цяпер спадніцах-пачках, якія не замінаюць нагам у палёце (спраектаваў іх мастак Эжэн Лам'е).

**1922**. Нарадзіўся амерыканскі пісьменнік-«бітнік» Джэк Керуак, чый раман «У дарозе» (1957 г.) моцна прычыніўся да з'яўлення руху хіпі.

### 13 сакавіка

**1917**. Падчас Лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе загінуў карэспандэнт газеты «Наша Ніва», паэт і этнограф Уладзімір Хлябцэвіч.

**1987**. Найбуйнейшы банкрут у свеце Раджэндра Сет'я, які ўцёк з Англіі, прыхапіўшы 170 млн. фунтаў стэрлінгаў, быў арыштаваны ў Дэлі падчас спробы пазычыць у індыйскага банку яшчэ 5 млн.

**1995**. У Калінінградскай вобласці ў Куршскім заліве адарвалася ад берагу і сплыла ў мора крыга, на якой сядзелі больш за 500 рыбакоў. Пакуль іх ўратавалі – сотні паспелі абмарозіцца, а каля 80 чалавек памерлі.

### 14 сакавіка

**1917**. Петраградскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў выдаў загад №1, які, сярод іншага, скасаваў абавязак вайскоўцаў аддаваць гонар старшым па званні і дазволіў салдатам самім выбіраць камандзіраў.

**1932**. Заснавальнік фотакампаніі *Kodak* вынаходнік Джордж Істмен скончыў жыццё самагубствам. Было яму ўжо 86, стала цяжка хадзіць. Амаль усю маёмасць Істмен ахвяраваў Рочэстэрскаму ўніверсітэту.

**1982**. Хірургі аднаго з нью-ёркскіх шпіталяў прыбралі з жывата пацыента-таўстуна 67 кг тлушчу. З аперацыйнага пакою чалавечае сала выносілі на насілках. Першапачатковая вага пацыента складала 362 кг.

**1985**. Пяці львіцам у Сінгапурскім заапарку пачалі даваць процізачаткавыя пігулкі, каб стрымаць надта хуткі рост львінай папуляцыі.

Падрыхтаваў **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Мінчукі думалі – пачалася вайна

30 гадоў таму ўвесь Мінск перажыў шок. 10 сакавіка 1972 году здарылася адна з самых жудасных трагедыяў у жыцці беларускай сталіцы за мірным часам. Па колькасці ахвяраў гэты дзень удвая перасягае 30 траўня 1999 году.

10 сакавіка тры дзесяцігоддзі таму выбухнуў цэх па вырабе радыёфутаралаў Мінскага радыёзаводу, што месціўся на вуліцы Соф'і Кавалеўскай. Прычына выбуху – іскра ў моцна загазаваным цэху. Гэта адбылося ўвечары, і з усіх канцоў гораду было доўга відаць полымя ў Курасоўшчыне, а ў навакольных дамах ад выбуховай хвалі зазвінелі шыбы. Відовішча было сапраўды страшнае, і многія жыхары гораду падумалі, што пачалася вайна. Цэх склаўся, як картачны дамок, і колькі дзён будаўнікі і салдаты працавалі на завалах.

Улады праўды не хавалі, бо схаваць яе было немагчыма: наступнае раніцы пасля трагедыі пра выбух у цэху радыёфутаралаў гаманіла ўся сталіца – у чэргах, у транспарце, на працы. На мінскіх могілках пачаліся пахаванні. Усяго падчас выбуху 10 сакавіка 1972 году загінулі больш за сотню чалавек. Яшчэ 250 з раненнямі запоўнілі сталічныя шпіталі.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# З Мазепы здымуць рускі праклён



Святары Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і Украінскай праваслаўнай царквы Кіеўскага патрыярхату з 5 сакавіка да восені гэтага году будуць ладзіць у храмах набажэнствы за зняцце анафемы з гетмана Украіны Івана Мазепы.

На пачатку XVIII стагоддзя, падчас вайны паміж Расіяй і Швецыяй, Мазепа перайшоў на бок шведскага караля Карля XII. Пасля Палтаўскай бітвы ў 1709 годзе ён разам з каралём уцёк у турэцкую крэпасць. Руская праваслаўная царква заклеймавала Мазепу як здрадніка і аддала анафеме. Цяпер Мазепа – нацыянальны герой Украіны. Яго выява – на купюры ў дзесяць грыўнаў.

Ініцыятарам набажэнства за зняцце анафемы стаў украінскі кінарэжысёр Юрый Ільенка. За 2,5 млн. даляраў, выдзеленых дзяржавай, ён паставіў мастацкі фільм «Малітва за гетмана Мазепу». У лютым карціну паказалі на Берлінскім кінафестывалі, аднак прызоў яна не атрымала. Ільенка абяцае паказаць стужку ўва Украіне восенню, пасля таго як святары адмоляць трохсотгадовую анафему Мазепу, якой да гэтай пары не скасавала Руская праваслаўная царква.

# Кітайцы абставілі еўрапейскіх першаадкрывальнікаў

Гісторыю 23 краін свету, магчыма, давядзецца неўзабаве перагледзець. Падстава для гэтага – адкрыццё англійскага гісторыка-аматара, былога падводніка Гавіна Мензіеса, пра якое піша брытанская газета *Daily Telegraph*.

На думку Мензіеса, Калумб адкрыў у 1492 годзе Амерыку не першым: кітайскія мараплаўцы апярэдзілі яго на 72 гады. Гісторык, які 14 гадоў вывучаў перасоўванні кітайскага флоту ў 1421–1423 гг., мяркуе, што да Вест-Індыі з Старога Свету першым дабраўся кітайскі еўнух-адмірал Чжэн Хэ. Акрамя таго гэты мараплавец апярэдзіў Кука, Магелана і Васка да Гаму ў кругасветным падарожжы, наведаўшы раней за еўрапейцаў, акрамя Паўднёвай Амерыкі, таксама Індыю і Аўстралію.

Мензіес збіраецца абнародаваць свае доследы перад вучонай аўдыторыяй 15 сакавіка, зрабіўшы даклад на пасяджэнні Каралеўскага геаграфічнага таварыства.

Адмірал каралеўскага флоту Джон Вудварт, які ў 60-я гг. служыў разам з Мензіесам, характарызуе яго як бліскуча адукаванага афіцэра з выдатнымі здольнасцямі і нестандартным мысленнем.

# Сексуальныя рабыні салдатаў-міратворцаў

*Элі скралі і прымусілі быць сексуальнай рабыняй для вайскоўцаў з KFOR у Косаве. Сярод такіх, як яна, былі і трынаццацігадовыя дзяўчаткі.*



«Калі вайна скончылася, я думала, што прыйдуць лепшыя часы. Але потым мяне скралі. І гэты кашмар быў яшчэ страшнейшы». Элі Мілуцінавіч, 20-гадовая студэнтка-медык з Бялграду, ніколі не даведаецца іменаў тых соцень мужчын, што гвалтавалі яе з чэрвеня 2000 году (год пасля скančэння натаўскіх бамбаванняў Косава) да сакавіка 2001 году (моманту, калі вось-вось павінны былі арыштаваць дыктатара Мілошавіча).

Яна не даведаецца іх іменаў, але наўрад ці забудзе іх форму і адзнакі на іхных мундзірах. Аднолькавая форма і адзнакі сведчылі пра тое, што яны – салдаты *KFOR* (міжнародныя падраздзяленні з 39 краінаў, раскватараваныя ў Косаве), якія выконваюць гуманітарную місію і адказваюць за падтрыманне міру. Элі – адна з соцень маладых дзяўчат (некаторым – па трынаццаць гадоў), якіх трымалі ў сексуальным рабстве ў пасляваенным Косаве. Пасля з'яўлення апошнімі гадамі салдатаў з розных краінаў у гэтай зоне пачало хутка развівацца прадпрымальніцтва, звязанае з вярбоўкай прастытутак. У гэты час быў адкрыты шэраг установаў для такіх забаваў, а сродкі, каб іх наведваць, у гэтай югаслаўскай правінцыі, што знаходзіцца пад абаронай ААН, мелі практычна толькі вайскоўцы *KFOR* (агулам 44 тысячы).

Але гаворка не пра звычайныя дамы распусты. Тут маладых дзяўчат, падманутых абяцанкамі добрага жыцця ці проста скрадзеных з Украіны, Румыніі, Балгарыі і Югаславіі, прымушаюць займацца прастытуцыяй, не плацячы нічога, часта пры патуранні мясцовай паліцыі, некаторыя афіцэры якой таксама карыстаюцца паслугамі гэтых сексуальных службаў.

Аповед Элі Мілуцінавіч ясна паказвае маштаб гвалту, учыненага салдатамі *KFOR*. Яе справа першай разбіралася ў судзе ў адпаведнасці з нядаўна прынятымі ў Косаве законамі аб пакаранні за схіленне да прастытуцыі.

Пасля таго як яе скралі на вуліцы побач са сваім домам у Бялградзе, выкрадальнікі адурманілі яе наркотыкамі, згвалцілі і прадалі за 2 045 еўра гаспадару аднаго з бараў, каб яна працавала прастытуткай. Калі яна адмаўлялася рабіць гэта, ёй пагражалі смерцю.

«Нас прывезлі ў мястэчка, размешчанае на поўнач ад Косава, побач з рускім лагерам, – працягвае расказваць яна. – Двое рускіх салдат увайшлі ў палатку і загадалі нам распрануцца. Яны згвалцілі нас. Пасля нас прымусілі ўступаць у сексуальныя зносіны з сотнямі салдатаў. Я мусіла задаволіць сама менш чалавек 20».

Падчас свайго зняволення, сцвярджае Элі, яе прымусілі аказваць сексуальныя паслугі 300 салдатам. Кожны з іх плаціў каля 50 еўра, хоць яна ніколі нічога не атрымлівала. Па словах дзяўчыны, большасць гэтых салдатаў з міжнародных падраздзяленняў былі афрыканцамі, азіятамі, адзін высокі ваенны чын з Пакістану і расійскія салдаты, у аднаго з якіх на пагонах былі тры зорачкі. «І гэтыя людзі былі там, каб дапамагаць мне». Афіцыйна ААН, *KFOR* і міжнародныя арганізацыі па гуманітарнай дапамозе, што працавалі ў Косаве, стварылі спіс бараў і ўстановаў, забароненых для наведвання вайскоўцам з інтэрнацыянальных брыгадаў. Але, па прызнанні Крыстын Брубахер, афіцэра канадскай паліцыі, якая кіравала падраздзяленнем па барацьбе супраць вярбоўкі прастытутак і прастытуцыі, створаным ААН для кантролю над такімі ўстановамі, «салдаты міжнародных фармаванняў таксама прычыніліся да стварэння гэтай праблемы: яны маюць надта шмат грошай у вельмі бедным рэгіёне».

Гэтае падраздзяленне пры падтрымцы ўзброенай ваеннай паліцыі ўвесь час ладзіць аблавы ў забароненых барах. Падчас рэйдаў там былі знойдзены сябры *KFOR*, але паліцэйскія агенты абмяжоўваюцца толькі ганьбаваннем, прапануючы пакінуць установу.

Нягледзячы на такую мяккую палітыку, ёсць сведчанні таго, што ўдзел салдатаў *KFOR* у вярбоўцы прастытутак заходзіць значна далей. Многія ахвяры кажуць, што іх гвалтам прывозілі непасрэдна ў лагеры *KFOR*. Некаторыя дзяўчаты сцвярджаюць, што іх трымалі ў зняволенні ў расійскіх лагерах. «Кожны выпадак, які стаў нам вядомы, будзе дэталёва правераны», – заяўляе Рой Браун, прэс-сакратар *KFOR*. Нягледзячы на шматлікія сведчанні, колькасць выстаўленых абвінавачванняў зусім нязначная.

Летась аднаго брытанскага афіцэра – 43-гадовага падпалкоўніка Эндру Бакстана, бацьку дваіх дзяцей – затрымалі ў адным з брудных публічных дамоў. Згодна са звесткамі з паліцэйскіх архіваў, у гэтай установе знаходзіліся жанчыны, дастаўленыя туды нелегальным шляхам. Бакстана пазбавілі вайсковага звання і выправілі назад у Лондан. Адзін з прэс-сакратароў брытанскіх узброеных сілаў адмовіўся пацвердзіць, якія юрыдычныя санкцыі былі скіраваны супраць яго. Элі Мілуцінавіч таксама цяпер знаходзіцца ў Вялікабрытаніі. Праз дзевяць месяцаў палону яна здолела ўцячы і пачала працаваць у якасці перакладчыцы ААН. Калі яна пастанавіла выступіць на судовым працэсе ў Прышціне супраць сваіх выкрадальнікаў, з увагі на пагрозы ў яе адрас, была распрацавана сістэма кругласутачнай аховы гэтай дзяўчыны. У Вялікабрытаніі ёй дапамаглі пачаць сваё жыццё наноў. У яе ёсць новыя дакументы на іншае імя, і яна хоча пасяліцца ў Германіі, каб вучыцца далей. Яе справа дайшла нарэшце да суду. Траіх сербаў і аднаго касаўскага выхадца асудзілі па абвінавачанні ў выкраданні і згвалтаванні да турэмнага зняволення тэрмінам на 11 гадоў. Ніводнага салдата з *KFOR* не асудзілі. А пяць злачынцаў выпусцілі на волю «да разгляду апеляцыі». Верагоднасць таго, што яны вернуцца за краты, зусім малая.

***El Mundo*, Іспанія**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 11 – 17 сакавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***

**АВЕН**. Калі ўзніклі праблемы юрыдычнага характару, кар'ернага росту, не варта іх зацягваць. Пад канец тыдня ўзнікаюць складанасці, якія часам ад вас не залежаць, але патрабуюць дадатковых выдаткаў. Таму пасярод тыдня ёсць сэнс знайсці прынцыповае рашэнне, а ў суботу паставіць кропку. Бліжэй да выходных можна знайсці разумны падыход да эміграцыі, «сыходу ў манастыр», здолець закулісна вырашыць спрэчкі.

**ЦЯЛЕЦ**. Вы актыўна шукаеце абходных шляхоў, каб пазбыцца залежнасці або даўгоў. Шлях цярністы, магчыма, прыйдзецца блефаваць. Трэба будзе вучыцца адрозніваць сяброў ад ворагаў. Не прымяншайце ролі «добразычліўцаў» у канцы тыдня, сужэнец таксама не схільны пакорліва зносіць вашыя зрывы. Хто шукае выйсця, той у пятніцу ці суботу знойдзе яго, а можа і скарб на дадатак.

**БЛІЗНЯТЫ**. Рэзервы сканчаюцца, і з працай трэба штосьці вырашаць. Бліжэй да суботы звяртайцеся да вышэйшых за вас. Пры гэтым пасярэднікі ці даручнікі могуць адыграць вырашальную ролю ў вашым лёсе. Лепей, калі гэта будзе жанчына. Некага з вашых блізкіх пільнуе інфекцыя ў другой палове тыдня – рабіце прафілактычныя захады.

**РАК**. Важнае значэнне мае каманда, якая атачае вас ці збіраецца, каб наладзіць прадпрыемства. Дадуць крэдыт (грашовы ці даверу) або не дадуць – вось дзе пытанне. Дайце патрэбным людзям час падумаць, да суботы, не раней. А вось пачынаючы з пятніцы, застрахуйцеся ад непажаданых гасцей, лішніх кілішкаў алкаголю – ёсць верагоднасць правакацыяў, боек.

**ЛЕЎ**. Спачатку будуць словы ці чуткі. А потым можна паставіць справу так, што на вашыя погляды пачнуць арыентавацца людзі, адмыслоўцы з іншых краінаў. Сужэнец ці партнёр уводзіць вас у кола сваіх знаёмых, якіх яшчэ трэба будзе настроіць на вашыя прыярытэтныя задачы. Засталося прыкласці апошнія намаганні, каб пазбавіцца застарэлай праблемы і інтрыг, што перашкаджаюць жыць.

**ПАННА**. Пад уздзеяннем няпростых абставінаў вашыя погляды на жыццё сур'ёзна мяняюцца. У аснове жыццёвай філасофіі часцяком ляжаць грошы. Камусьці з вашых дзяцей ці каханаму ў сярэдзіне тыдня зробяць спакуслівую прапанову, у іх можа скласціся ўдалая гульня. У стане ворагаў ці канкурэнтаў ідзе пераразмеркаванне сілаў. Прытрымайце свой характар да суботы. У сужэнца гатова вырашыцца справа з лячэннем.

**ШАЛІ**. На пачатку тыдня нехта ідзе на ўдзел у грамадскіх ці юрыдычных працэсах, якія могуць паўплываць на далейшую кар'еру. Тут ужо давядзецца выбіраць – ці рабскі стан, ці выхад з прыніжанага становішча. Нехта нездарма спадзяецца на шлюб з добрым пасагам ці на магчымасць адсудзіць спадчыну. Аднак бліжэй да выходных можа чакаць помсты, узрушэння дзяцей ці спадкаемцаў.

**СКАРПІЁН**. На пачатку тыдня за нездавальняючую працу могуць і прэміі пазбавіць. Умейце размаўляць з высокім начальствам. У нейкім сэнсе вы шчасліўчык – гэты тыдзень ставіць кропку ў доўгіх роздумах пра сутнасць кахання, пра дзяцей. Высвятленне з сужэнцам правоў і абавязкаў у вядзенні хатніх справаў у другой палове тыдня можа нарабіць шкоды адносінам, а то і парваць іх.

**СТРАЛЕЦ**. Вы не ўпэўнены ў сваіх пачуццях; адчуванне правоў і абавязкаў, што навалiліся на вас, спыняе перад адказным крокам. Няпростыя адносіны з дзецьмі пазбаўляюць ілюзіяў наконт таго, што светам кіруе любоў. Давядзецца выбіраць месца жыхарства ці займацца кватэрай. Для кагосьці службовы раман здольны стварыць эфект выбуху бомбы. Галоўнае – беражыце спакой сваіх блізкіх.

**КАЗЯРОГ**. Ліквідуйце непатрэбныя сувязі, толькі не спяшайцеся з высновамі да суботы. Нехта з каханых гатовы паспрыяць з кватэрай. Аднак дзеці чыняць перашкоды, могуць стацца фактарам, які разбурае любоўныя адносіны. Не выключана незадаволенасць блізкіх і хатніх раманам, які ў вас запачаткоўваецца. Менш скандалаў, жарсцяў і болей важкіх, матэрыяльных аргументаў – і шмат што стане на свае месцы.

**ВАДАЛІЎ**. Вас займае «дом на колах», шмат раз'ездаў, праглядаў і перамены кватэраў, юрыдычных тонкасцяў і клопату па абмене. Вы гатовы выбухнуць ад шматлікіх візітаў сваякоў бліжэй да выходных, бо, нягледзячы ні на што, грошы ці сродкі адшукаць не так проста. Не спяшайцеся заключаць пагадненні фінансавага характару да суботы, у сераду і чацвер прыслухайцеся да каштоўнай парады спецыяліста.

**РЫБЫ**. У першай палове тыдня вы можаце аказацца няўдачнікам на фінансавым рынку. Але з дапамогай юрыстаў слушныя рашэнні магчымыя сярод тыдня. Не загружайце сябе працай, клопатам пра лячэбныя працэдуры, але пастарайцеся рашыцца на адказны крок і прапановы не раней за суботу. У канцы тыдня не выключана страта грошай ці рэчаў, асабліва ў дарозе – прыглядайцеся да спадарожнікаў.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1131 Нумар падпісаны ў друк 10/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760